# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

13 снежня 2019 года №50 (1285)

18+




# Вілейка супраць Маладзечна: дзе быць IT-інстытуту



Таццяна Цітуленка прапанавала адкрыць у Вілейцы ВНУ для айцішнікаў

старонка 5

Фота са старонкі Таццяны Цітуленкі ў Facebook.





## Ашмянскага міліцыянера знайшлі мёртвым ва ўласным аўто

старонка 4



## Як абмяркоўвалі будаўніцтва новага ЗАГСа ў Маладзечне і што на тым месцы хацелі пабудаваць раней

старонкі 2-3


ISSN 1991–7155

9 771991 715006 19050


Адсканулюйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# Што хацелі пабудаваць на месцы будучага ЗАГСа ў савецкія часы

Фота МВЦ г.Находкі.

Урачыстасці на плошчы ў 1959 годзе.




Фота БДАНТД.

Фрагмент генплана Маладзечна 1947 года з забудовай цэнтральнай плошчы.



Фота забяспечанае аўтарам.

Макет плошчы Леніна (цяпер Цэнтральная плошча) на фота 1980-х.

**Жыхары Маладзечна абмяркоўваюць праект новага будынка ЗАГСа, які павінны паўстаць на месцы знесенай стаянкі каля Цэнтральнай плошчы. Пакуль праходзіць грамадскае абмеркаванне праекта, краязнаўца з Маладзечна Уладзімір Садоўскі ўзгадвае, што хацелі пабудаваць на меркаваным месцы будучага ЗАГСа пасля вайны і чаму гэта не атрымалася.**

МАЛАДЗЕЧНА

Планы забудовы будучай Цэнтральнай плошчы разгарнуліся ў пасляваенныя гады. Ёсць звесткі, што яшчэ польскія ўлады ў канцы 1930-х гадоў планавалі асвоіць гэту частку горада, але іх задумкі перакрэсліў верасень 1939-га.

## Забудова абласнога цэнтра

У генплане 1947 года цэнтральная плошча была пазначаная як новы адміністрацыйны цэнтр абласнога горада. Маладзечна ад 1944 да 1960 года мела статус абласнога цэнтра БССР, таму архітэктурныя праекты, створаныя ў гэты прамежак часу, у першую чаргу, былі накіраваныя на тое, каб прывесці былы павятовы горад Маладзечна ў адпаведнасць з новым высокім статусам.

Цэнтральная плошча будавалася, можна сказаць, сярод чыстага поля, амаль што на сярэдзіне шляху паміж чыгуначнай станцыяй і раёнам былога фальварка Гелянова, дзе ў даваенныя часы размяшчаўся гарнізон Войска Польскага. Згодна з генпланам 1947 года, на пляцоўцы, адведзенай пад новы ЗАГС, планавалі ўзвесці два адміністрацыйныя будынкі, пазначаныя на плане лічбамі 27 і 28. У тлумачэнні да генплана напісана, што пад нумарам 27 разумеюць будынак «дома судовых органаў», папросту кажучы, абласны суд, а 28 – гэта Дом піянераў.

Як можна бачыць з вышыні нашага часу, далёка не ўсё запланаванае ў генплане 1947 года здзейснілі. Ні суд, ні Дом піянераў так і не пабудавалі да таго моманту, калі ў 1956 годзе пачалі распрацоўваць новы генплан горада. Ужо паводле новых распрацовак, на пляцоўцы, якая тады пуставала, запланавалі вялікі будынак аблвыканкама.

Згодна з праектам, гэта павінны быў паўстаць тыповы для сярэдзіны 1950-х адміністрацыйны будынак у манументальным, але някідкім стылі. Якраз у 1955 годзе пачаў дзейнічаць хрушчоўскі загад у галіне спрашчэння савецкай архітэктуры, вядомы ў шырокіх колах як «загад аб скасаванні архітэктурных празмернасцяў».

## Пустая пляцоўка

Як і папярэдні, генплан Маладзечна 1956 года не быў рэалізаваны цалкам. І адной з галоўных перашкодаў на шляху выканання, хутчэй за ўсё, стала страта горадам статуса абласнога цэнтра. У 1960-м годзе па загадзе Хрушчова ў рэспубліках Савецкага Саюза правялі ўзбуйненне адміністрацыйных адзінак, у выніку якога Маладзечанскую вобласць ліквідавалі, раёны падзялілі паміж трыма суседнімі абласцямі: Мінскай, Віцебскай і Гродзенскай.

На фотаздымку плошчы 1959 года, які на днях знайшоўся ў фондах музейна-выставачнага цэнтра расійскага горада Находка, можна пабачыць, што пляцоўка пад будучы аблвыканкам была агароджаная і на ёй нават пачалі земляныя работы. Але, відаць, пасля скасавання вобласці патрэба ў такім вялікім будынку адпала і працы спынілі.

Да нашага часу незабудаваная пляцоўка ў самым цэнтры горада ператварылася ў прахадную пустку. На фотаздымках савецкіх часоў можна пабачыць, як падчас свят на плошчы непрывабную пустую пляцоўку закрывалі ад гледачоў шэрагам сцягоў ці плакатаў. У часы незалежнай Беларусі від на пустку перакрыў шэраг прыватных крам і агароджаная стаянка, але зусім нядаўна гэта знеслі пад патрэбы новага будаўніцтва.

У 1980-я гады пры стварэнні новага генплана цэнтральнай часткі Маладзечна на месцы пусткі планавалі будынак, аддалена падобны на цяперашні праект ЗАГСа. Пакуль не маем інфармацыі пра тое, якое прызначэнне меў гэты будынак на макеце, але цалкам магчыма, што цяперашні праект можа быць працягам ідэй 1980-х гадоў.

**Уладзімір САДОЎСКІ, краязнаўца.**

# Як абмяркоўвалі новы ЗАГС

**У чацвер, 5 снежня, прайшло абмеркаванне новага праекта будынка маладзечанскага ЗАГСа насупраць Цэнтральнай плошчы.**

МАЛАДЗЕЧНА

На сустрэчы былі галоўны архітэктар праекта **Уладзімір Даніленка**, начальнік аддзела архітэктуры і будаўніцтва райвыканкама **Святлана Хрусталёва**, выканальнік абавязкаў начальніка маладзечанскага ЗАГСа **Эліна Платановіч**. На абмеркаванні прысутнічалі і жыхары горада.

### «Зробім строгі і аскетычны вобраз»

Уладзімір Даніленка спраектаваў Палац культуры ў Маладзечне. Лічыць, што новы ЗАГС стане адным з сімвалаў горада. Па перадпраектнай прапрацоўцы, будынак будзе двухпавярховы з падвалам. На даху будзе размешчаная скульптура. У папярэднім плане – гэта вялікі залаты шар.

– Мы падлічылі, што ў будынак трэба ўкласці 9 мільёнаў 226 тысяч рублёў. Адзін квадратны метр – гэта дзве тысячы долараў. Будынак зойме каля 2,3 тысячы квадратных метраў, – падсумаваў Даніленка.

Хрусталёва адзначыла, што перадпраектную прапрацоўку зрабілі за кошт раённага бюджэту. Фінансаванне будаўніцтва плануюць атрымаць з абласнога бюджэту.

– Накіравалі ліст у Мінаблвыканкам з просьбай унесці праект у інвестыцыйную праграму Мінскай вобласці на 2020 год.

На пытанне, што будзе, калі Мінаблвыканкам не будзе фінансаваць праект, Хрусталёва адказала: гэты варыянт нават не разглядаецца.

Уладзімір Даніленка сказаў, што вынаходствы будуць недарэчныя ў будынку.

– Зробім строгі, аскетычны, запамінальны вобраз, годны той плошчы, якая ўжо сфарміравалася.

Жыхар Маладзечна **Эдвард Баланчук** заўважыў, што ў будучай скульптуры залатога шара не праглядаецца беларуская традыцыя, і спытаў, ці не будзе яна падобная да цыбуліны. Даніленка адказаў, што памеры і прапорцыі скульптуры будуць карэктаваць.

– Зразумела, што будынак павінны быць беларускім і з беларускай традыцыяй. Прыкладаў у гісторыі, дзе будынкі завяршаюцца скульптурамі з шарамі, шмат. Ёсць прыклады з Вены і Масквы.

### «У вас міленька, але бедненька»

Прадстаўніца ЗАГСа **Эліна Платановіч** сказала, што памяшканне, дзе цяпер месціцца ўстанова, патрабуе рамонту, нават рэканструкцыі, таму супрацоўнікі падтрымліваюць магчымае будаўніцтва.

– Фасад жудасна выглядае, людзі з інвалідnасцю не могуць трапіць унутр, а мы слухаем прэтэнзіі. Туалет – гэта каменны век, ён практычна заўсёды ў стане рамонту. Парковак няма, таму пастаянныя канфлікты паміж кіроўцамі цырымоній. Бываюць нават невялікія ДТЗ.

Яшчэ вялікі недахоп: няма скразнога выхаду для тых, хто бярэ шлюб. Супрацоўнікі вымушаны прапускаць людзей праз офісны выхад. У маладзечанскага ЗАГСа высокая наведвальнасць.

– Прыязджае шмат людзей на цырымоніі, бываюць замежнікі. Мы чуем нараканні і падзякі. Неяк сказалі, што ў нас міленька, але бедненька.

Платановіч сказала, што ёсць праблемы з захаваннем таямніцы інфармацыі з-за маленькага памяшкання. Па яе словах, гэта фактычна з'яўляецца парушэннем заканадаўства.

– Мы называем бацькоўства ў прысутнасці іншых асоб, якія таксама чакаюць адміністрацыйных працэдур. Але не могуць гэта рабіць у другім памяшканні, таму што яго ў нас няма.

Сэрца ЗАГСа, тлумачыць Платановіч, гэта архіў. Архіў знаходзіцца ў складскім памяшканні, а там не выкананыя нормы захавання архіўных дакументаў. Гэтыя дакументы каштоўныя, але супрацоўнікі ЗАГСа не могуць іх захоўваць у належных умовах.

### Прапаноўвалі зрабіць ратушу ці інстытут

Баланчук прапанаваў зрабіць замест ЗАГСа ратушу. Архітэктар патлумачыў, што для ратушы ёсць месца на плошчы, калі будынак перапрафіляваць, – гэта політэхнічны каледж. Паводле Хрусталёвай, раней у генеральным плане адзначалася, што на месцы політэхнічнага каледжа павінны быць выканкам.

– А чаму не зрабіць інстытут? Маладзечна мае чыгуначны вузел, які звязвае 500 тысяч людзей з Мядзела, Астраўца, Вілейкі, Смаргоні, Валожына, Ашмянаў, – пацікавіўся Баланчук.

Даніленка распавёў, што інстытут добра б глядзеўся на месцы гандлёва-эканамічнага каледжа, а не на тым месцы, дзе плануецца новы ЗАГС.

Па словах начальніка аддзела архітэктуры і будаўніцтва, яшчэ будуць вырашаць пытанні з пашырэннем вуліцы Талстога, каб зрабіць там двухбаковы рух. Плануецца зрабіць каля ЗАГСа паркоўку. Даніленка адзначыў, што зялёная зона ад будаўніцтва не пацерпіць, а вось пад паркоўку, магчыма, прыйдзецца ссекчы дрэвы.

**Настасся УТКІНА.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 5.12 | 12.12 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1183 | **2.1143** |
| Еўра | 2.3464 | **2.3436** |
| Злоты, 10 | 5.4820 | **5.4701** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.3008 | **3.3269** |
| Грыўня, 100 | 8.8513 | **8.9598** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 4.12 | 11.12 |
| Еўра | 2.3250/2.3550 | **2.3300/3.3500** |
| Долар ЗША | 2.1100/2.1300 | **2.1050/2.1230** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 4.12 | 11.12 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,87 | **19,87** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 4,29 | **3,85** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,44 | **7,44** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 5,90 | **9,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,60 | **15,60** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,90** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,75 | **1,75** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **2,00** |
| Агуркі, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Баклажаны, 1 кг | 4,80 | **4,80** |
| Бульба, 1 кг | 0,55 | **0,55** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Кабачок, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,45 | **0,45** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Памідоры, 1 кг | 2,90 | **2,50** |
| Перац, 1 кг | 4,80 | **4,80** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Часнок, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,90 | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Бананы, 1 кг | 2,50 | **2,60** |
| Вінаград, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Гранат, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Грэцкі арэх цэлы, 1 кг | – | **6,90** |
| Грушы, 1 кг | 2,90 | **2,90** |
| Ківі, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Лімон, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Хурма, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Чарнасліў б/к, 1 кг | – | **6,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,80 | **1,80** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Мужчына парэзаў колы ў чатырох іншамарках, пакуль чакаў дзяўчат

**СМАРГОНЬ**

Трое калег 7 снежня, якія адпачывалі ў адным з бараў Смаргоні, вырашылі працягнуць вечар у кампаніі знаёмых дзяўчат. Сустрэцца дамовіліся ў інтэрнаце, дзе тыя жывуць.

– Калі мужчыны прыехалі на месца, сяброўкі яшчэ не выйшлі. Для аднаго з кавалераў ці то чаканне здалося занадта доўгім, ці то доза алкаголю апынулася залішняй. Аднак без тлумачэнняў ён нажом пачаў рэзаць колы аўтамабіляў, якія стаялі побач. Гэта ўбачылі мінакі і паведамілі ў міліцыю, – распавёў першы намеснік начальніка Смаргонскага РАУС **Іван Руткоўскі**.

Мужчына, які пашкодзіў чатыры іншамаркі, – 35-гадовы грамадзянін Расіі. Яго затрымаў бліжэйшы нарад патрульна-паставой службы міліцыі. Цяпер ён знаходзіцца ў ізалятары часовага ўтрымання.

У дачыненні да фіґуранта распачатая крымінальная справа, следчымі будзе дадзеная прававая ацэнка.

**Паводле МУС.**

## Маладзечанка за некалькі хвілін страціла тры тысячы рублёў

**МАЛАДЗЕЧНА**

За некалькі хвілін размовы з махляркай 50-гадовая жыхарка Маладзечанскага раёна страціла каля трох тысяч рублёў.

Грошы жанчына збірала на паездку ў санаторый. Яна прызналася, што чула пра такія ашуканскія схемы, але ўжо вельмі перанаўчай была лжэсупрацоўніца банка, паведамляе абласная міліцыя.

Жанчыне патэлефанавалі нібыта з «Беларусбанка» 4 снежня каля 19 гадзін. На іншым канцы провада дзяўчына паведаміла, што ад імя пацярпелай паступіла анлайн-заяўка на крэдыт больш за 2000 рублёў. Спачатку размова з невядомай не складвалася. Абгрунтаваўшы, што не з'яўляецца трымальнікам карты названага банка, вяскоўка паклала трубку.

Званок паўтарыўся – аказалася, праблемы паўсталі і з той плацежнай карткай, якая ёсць на руках заяўніцы. Як адзначыла пацярпелая, дыялог быў настолькі правільна выбудаваны, што, маўляў, вакол аферысты і трэба неадкладна ратаваць свае зберажэнні.

Па словах дзяўчыны, адзіна правільны спосаб засцерагчы сябе – паставіць падвойную абарону. Занепакоеная жанчына адразу ж пагадзілася на прапанову банка і прадыктавала лічбы, якія прыйшлі ёй у смс-паведамленні, маўляў, новы пароль карткі. Наступнае апавяшчэнне ўжо было аб спісанні больш за 2 800 рублёў.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Загарэлася столь у двухпавярховым доме

**ВІЛЕЙКА**

Пажар здарыўся ў Вілейцы на вуліцы Стаўкі 6 снежня каля 21:00.

Калі на месца здарэння прыехала першае падраздзяленне выратавальнікаў, з-пад даху двухпавярховага цаглянага дома ішоў дым. Як стала вядома, гарэла памяшканне на другім паверсе.

У выніку згарэла частка столі плошчай два на два метры, часткова пашкоджаная маёмасць і закураныя сцены.

Па словах галоўнага спецыяліста Вілейскага РАНС **Дзяніса Гаўрышчука**, верагодны прычынай стала кароткае замыканне.

Гаспадары не пацярпелі. Яны своечасова выйшлі з дома і выклікалі выратавальнікаў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Міліцыя шукае гаспадара дзіцячай каляскі

**МАЛАДЗЕЧНА**

23 лістапада каля 10 гадзін раніцы ў аператыўна-дзяжурную службу Маладзечанскага РАУС паступіў званок ад жыхара Мінска. Ён ехаў каля сквера пад пуцеправодам на вуліцы Віленскай і каля АЗС «Лукойл» заўважыў пакінутую без нагляду дзіцячую каляску. Мужчына быў занепакоены, што ў калясцы можа знаходзіцца дзіця.

На месца выбылі супрацоўнікі міліцыі. Па ўказаным адрасе сапраўды была выяўленая пустая дзіцячая каляска, якіх-небудзь рэчаў у ёй не было. Вартавыя парадку даставілі каляску ў Маладзечанскі РАУС.

Цяпер праводзіцца праверка, усталёўваецца асоба ўладальніка дзіцячай каляскі. Па факце знікнення ў міліцыю заявы не паступалі, паведамілі ў прэс-службе Маладзечанскага РАУС.

**Аддзел інфармацыі.**




Смерць міліцыянера не носіць крымінальны характар.

# У Ашмянах знайшлі труп міліцыянера ў асабістым аўто

**АШМЯНЫ**

**По факце смерці супрацоўніка Ашмянскага РАУС праводзіцца праверка.**

Пра гэта паведаміў карэспандэнту БЕЛТА афіцыйны прадстаўнік УУС Гродзенскага аблвыканкама **Яўген Дудко**.

Каля 20 гадзін 5 снежня ў асабістым аўтамабілі знайшлі труп супрацоўніка Ашмянскага РАУС.

– Папярэдне ўстаноўлена, што смерць не носіць крымінальны характар і не звязаная з выкананнем службовых абавязкаў, – адзначыў Яўген Дудко.

Супрацоўнікі Следчага камітэта па гэтым факце праводзяць праверку. Падрабязнасці не агучваюць.

**Паводле БелТА.**

## На пажары загінула 37-гадовая жанчына

**АСТРАВЕЦ**

Пажар здарыўся 6 снежня каля 14:00 у вёсцы Лазоўка Гудагайскага сельсавета.

**Згарэў дах, часткова перакрыцці, маёмасць.**

У жылым пакоі выратавальнікі знайшлі 37-гадовую дачку гаспадыні. Жанчына была ў непрытомным стане. У 14:47 медыкі канстатавалі яе смерць. Прычыну пажару высвятляюць.

**Паводле МНС.**

## На пажары загінуў пенсіянер. Яшчэ аднаго мужчыну выратавалі

**СМАРГОНЬ**

Здарэнне адбылося ў двухпакаёвай кватэры аднапавярховага жылога дома па вуліцы Якуба Коласа. Паведамленне пра пажар паступіла выратавальнікам у 00:39.

– У пакоі кватэры знойдзены загінулым гаспадар кватэры 1948 года нараджэння. З тэрмічнымі апёкамі 2-3-й ступеняў шпіталізаваны мужчына, які быў у гасцях, – распавялі ў МНС.

У выніку пажару знішчаная маёмасць кватэры. Прычына інцыдэнту высвятляецца.

**Паводле БелТА.**

## Кіроўца збіў мужчыну ў Цюрлях. Міліцыя шукае сведкаў і відавочцаў

**МАЛАДЗЕЧНА**

Аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС шукае сведкаў і відавочцаў здарэння.

18 лістапада каля 07:30 гадзін кіроўца на аўтамабілі «Опель-Астра» збіў пешахода, які пераходзіў праезную частку дарогі па пешаходным пераходзе. Кіроўца ехаў па вуліцы Маладзечанскай у вёсцы Цюрлі ў напрамку Маладзечна з боку Валожына.

У выніку ДТЗ пешаход атрымаў цяжкія цялесныя пашкоджанні.

Просьба сведак і відавочцаў дадзенага здарэння звярнуцца ў аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС па адрасе: г. Маладзечна, вул. Т. Дудко, 1-18 або па тэл. 74-53-40, 74-53-43, альбо па нумары 102.

**Сяргей БАРТОШ,**
**старшы інспектар ДПС Маладзечанскай ДАІ.**

## Пашкодзіў статуі і знішчыў лаўкі ля касцёла

**АСТРАВЕЦ**

Ноччу 25 лістапада ў міліцыю патэлефанаваў жыхар Астраўца і сказаў, што на тэрыторыі касцёла знаходзіцца хлопец, які парушае грамадскі парадак, у руках у яго палка.

Як паведамляе прэс-служба Следчага камітэта Беларусі, малады чалавек пашкодзіў чатыры статуі, а таксама цалкам знішчыў дзве лаўкі на тэрыторыі касцёла.

Хлопца затрымалі на месцы здарэння супрацоўнікі Дэпартамента аховы. Выразна растлумачыць прычыну таго, што ён рабіў, малады чалавек не змог.

**Згодна з інфармацыяй рэлігійнай абшчыны касцёла, шкоду нанеслі на суму больш за 500 рублёў.**

Астравецкі раённы аддзел Следчага камітэта ў дачыненні да 22-гадовага жыхара Ашмянаў узбудзіў крымінальную справа па ч. 1 арт. 339 Крымінальнага кодэкса (хуліганства).

**Паводле Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь.**

# Маладзечна ці Вілейка? Дзе лепш адкрыць ВНУ для айцішнікаў

ВІЛЕЙКА
МАЛАДЗЕЧНА

**4 снежня на нарадзе Аляксандра Лукашэнкі з актывам Міншчыны вілейскі дэпутат Таццяна Цітуленка прапанавала яму адкрыць IT-ВНУ ў Вілейцы.**

Па яе словах, у горадзе для гэтага ёсць усё: чыгунка, навучальныя ўстановы, інтэрнаты, стадыён, басейн і вадасховішча.

– Разумееце, такое адчуванне, што Вілейка створаная для гэтай навучальнай установы, – сказала Цітуленка.

Лукашэнка падзякаваў дэпутату за прапанову, але перапытаўся, чаму не адкрыць інстытут у Маладзечне. Ён таксама ўдакладніў, што інстытут абавязкова будзе ў Мінску ці Мінскай вобласці. Нагадаем, што адкрыць установу плануюць у наступным годзе ў кастрычніку.



Фота забяспечанае Таццянай ЦІТУЛЕНКАЙ.

Таццяна Цітуленка.

## Прачнулася і падумала: IT-ВНУ павінна быць у Вілейцы

Мы звярнуліся да Таццяны Цітуленкі і папрасілі расказаць, чаму ўзнікла такая прапанова.

– Пачынаць буду здалёк. У сакавіку мы правялі ў Вілейцы бізнес-форум, пра які пісала «Рэгіянальная газета». Даследаванні да форуму праводзіў сацыёлаг з Мінска **Уладзімір Літвіновіч**. А не так даўно, восенню, ён ладзіў навучальны семінар для намеснікаў старшыняў райвыканкамаў Мінскай вобласці. Туды запрасіў мяне выступіць, распавесці пра наш вілейскі форум, – прыгадвае Таццяна Цітуленка.

Па яе словах, з таго выступлення яна прыехала дамоў вельмі натхнёная, на эмацыйным уздыме. Раніцай прачнулася і падумала: IT-ВНУ, пра якую казаў Аляксандр Лукашэнка, абавязкова павінна быць у нас. Тым больш, што раней вілейчукі ўжо абмяркоўвалі такую магчымасць.

З афіцыйнымі лістамі пра адкрыццё IT-ВНУ ў Вілейцы актывісты звярнуліся ва ўрад Беларусі, у Міністэрства адукацыі, парк высокіх тэхналогій і да старшыні Вілейскага райвыканкама. Ва ўстаноўлены тэрміны атрымалі адказы ад усіх, акрамя ўрада. У лістах вілейчукам дзякавалі за ініцыятыву і абяцалі, што будуць мець на ўвазе іх прапанову.

## Не атрымалася звярнуцца да Турчына, затое звярнулася да Лукашэнкі

– Калі Аляксандра Турчына прызначылі старшынёй Мінаблвыканкама, дэпутаты павінны былі зацвердзіць кандыдатуру. Я паехала на гэту нараду як дэпутат, а заадно думала звярнуцца да Турчына з нашай прапановай. Пра тое, што на мерапрыемстве будзе Аляксандр Лукашэнка, я адразу не ведала, – расказвае Таццяна Чаславаўна.

Усе падтрымалі кандыдатуру Аляксандра Турчына на пасаду старшыні, а спытаць пра IT-ВНУ ў Вілейцы не атрымалася.

Пасля перапынку з'явіўся Аляксандр Лукашэнка. Ён шмат расказваў пра Мінскую вобласць і яе праблемы. А потым прапанаваў задаваць пытанні.

> **– Тады я падумала: калі цяпер не скажу пра адкрыццё ВНУ ў Вілейцы, то больш такой магчымасці можа не быць. Вось і прапанавала Вілейку як пляцоўку, – дзеліцца суразмоўца.**

На думку Таццяны Цітуленкі, яна зрабіла максімум з таго, што хацела.

– Будзем глядзець, як далей будзе рухацца справа. Калі нашу прапанову падтрымаюць, будзем вельмі ўсцешаныя. Калі падтрымаюць нейкую іншую ініцыятыву, таксама нядрэнна. А ўвогуле, для свайго горада мы гатовыя нешта ствараць і без падтрымкі. У Вілейцы ёсць ініцыятыўныя людзі, якія вельмі любяць горад і з якімі прыемна працаваць.

А як ставяцца да ідэі адкрыцця ВНУ іншыя вілейчукі і маладзечанцы?

**Андрэй Дударчык, Вілейка, дэпутат, дырэктар кінатэатра**

– Я адназначна за адкрыццё такой установы. Трэба рабіць, як у іншых краінах. Кембрыдж і Оксфард былі невялічкімі гарадкамі, пакуль адкрылі ВНУ. А цяпер паглядзіце на іх. Вілейка – недалёка ад Мінска. Побач з ёй – некалькі гарадоў. А адкрыццё навучальнай установы – гэта развіццё і Вілейкі, і навакольных гарадоў. Вырашацца пытанні працаўладкавання. Трэба ж будзе будаваць інфраструктуру для ВНУ. У Вілейцы ёсць добрая база для пачатку – вялікі будынак былога двухсотага вучылішча. І ёсць месца, дзе разбудавацца. Таму тая ідэя, якую агучыла Таццяна Цітуленка, даўно ўжо знайшла падтрымку.

**Вераніка Гіль, менеджар па турызме:**

Як ідэя – прапанова добрая, лічыць вілейчанка Вераніка Гіль. Але ў яе рэалізацыі ўзнікае шмат пытанняў. Напрыклад, як будуць заахвочваць выкладчыкаў, каб яны ехалі працаваць у Вілейку. Забяспечыць такую навучальную ўстанову мясцовымі спецыялістамі горад, на думку Веранікі, наўрад ці зможа.

– Як можна казаць пра IT-ВНУ, калі нават гарадскі гатэль у букінгу не могуць да толку прадставіць? – не разумее дзяўчына. – Я лічу, што Вілейка – не для доўгатэрміновых перспектыў. Тут патрэбная хуткая рэанімацыя. А яшчэ ўвесь час гляджу на Ільянскі аграрны каледж. Тое, што там вучыцца моладзь, ніяк не спрыяе таму, што яны застаюцца на Вілейшчыне і развіваюць рэгіён.

**Дзмітры Чапурок, супрацоўнік EPAM Belarus, Маладзечна:**

– Калі шчыра, то ўвогуле сумняваюся, што менавіта гэта трэба як Вілейцы, так і Маладзечну. Мне здаецца, патрэбы ў IT-сферы пакрываюцца ўніверсітэтамі або іншымі адукацыйнымі ўстановамі ў абласцях. Але дапускаю, што ў дадзеным пытанні я не спецыяліст. А наконт навіны, то я нават здзіўлены. Але калі выбіраць паміж гэтымі гарадамі, то я выбраў бы Маладзечна.

**Эдуард Баланчук, праваабаронца, Маладзечна:**

– У Маладзечне былі два філіялы інстытутаў. Шмат хто з рэгіёна атрымаў там адукацыю. Гэта было вельмі карысна, таму што была прамысловая адукацыя, а людзі потым адкрывалі свае прадпрыемствы. Але пасля не хапіла настаўнікаў і прафесарскага рэсурсу, нармальных памяшканняў.

Маладзечна ад Мінска недалёка, калі зрабіць тут інстытут, то знойдуцца выкладчыкі. Да гэтай тэмы трэба звяртацца. Наш рэгіён вялікі, больш за 500 тысяч насельніцтва. Гэта ўсё разгрузіла б і сем'і ў фінансавым сэнсе – дзяцей вучыць у Мінску складана.

**Аксана ЯРАШОНАК,**
**Настасся УТКІНА.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ’ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб’яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ВІНШАВАНКА

**Васілю Аляксеевічу ТАРКАНУ з Маладзечна**

Дарагі дружа, віншуем цябе з днём нараджэння! Шчасця, здароўя, творчых поспехаў на тваім шляху.

*І каб не журыўся ніколі,*
*Не ведаў ніякай бяды –*
*Малюй сваю ўласную долю,*
*Дзе месца няма для нуды.*
*Стварай весялковыя далі,*
*Дзе сонейка грае у іх,*
*Круці, як ў дзяцінстве, педалі*
*Жыцця, абганяючы ўсіх!*

**Сябры.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Дача Логан, 2010 г.в., 1461 куб. см, дызель. Шэры металік, універсал. 11800 рублёў. Т. (8-029) 3358731.*
- Опель-Вівара, 1,9 СТДі, 2006 г.в., дызель, пасажырскі. Т. (8-029) 9512274.
- Опель-Астра, 2001 г.в.,1,7 ДТІ, чорны. Т. (8-033) 6358202.*
- Фіят-Уліс, 1995 г.в., газ-бензін, 2,0 л, турба. Т. (8-029) 6080111.
- Форд-Мандэа, 1993 г, 1, 8 л., прабег 308 тыс. км, 2100 руб. Тел. (8-029) 6617890.*
- Шаўрале-Матыз у выдатным стане. Т. (8-029) 9139773
- Дыскі-штампоўкі (жалеза) R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford Escort, 55 руб. Т. (8-033) 366-81-81.*
- Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*
- Запчасткі для Ford Escort 6 (1995-2000): дзверы ў зборы, капот, фара, задняя ліхтары (універсал), люстэрка, упускны калектар, інжэктар (1.6 Zetec), дажджавік. Усё ў добрым стане, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

### КУПЛЮ

- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 1236722, (8-033) 3265724.*
- Аўто легкавое, грузавое, бус. Можна аварыйныя. Т. (8-029) 5677052.*
- Аўто! Іншамарку! У любым стане. Т. (8-029) і (8-044) 7769900.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра з рамонтам у Вілейцы. Т. (8-029) 7757392.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. 98-029) 9485029.
- 2-пакаёвая светлая кватэра ў Маладзечне з рамонтам і мэбляй у выдатным раёне, 51,1/28,5; 8,8; 6/9. Т. (8-029) 3997088.*
- Гараж у ГБК-2, Вілейка, нядорага. Т. МТС (8-033) 6611354.*
- Дом у в. Каралеўцы Вілейскага раёна, участак 47 сотак. Т. (8-029) 2519948.
- Дом у в. Ракшыцы Вілейскага раёна, гаспадарчыя пабудовы, летняя кухня. Т. (8-029) 9394312 Вэлком.*
- Дом у Маладзечне, 100 кв. м, 0,06 га, 2 газавыя катлы, хлеўчык, гараж, калонка ў двары. Т. (8-044) 5749372.

### НАЙМУ

- 1-пакаёвую кватэру ў Маладзечне. Т. (8-029) 5395464.

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



- «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*
- Бурэнне свідравін (скважын) дыяметрам 32 мм, 63 мм, 90 мм і 125 мм. Работы выконваем магутнай малагабарытнай устаноўкай. Спецыялісты атэставаныя на тэрыторыі РБ. Магчымы выезд для консультацыі. Кошт работы ад 40 рублёў м/п. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245, (8-044) 5486213.*
- Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- Выраб персанальных каляндароў з фота – 8 руб. Ёсць гатовыя з відамі Смаргоні – 6 руб. Смаргонь, вул. Танкістаў,8. ІП Улан Р.В. УНП 690288442. Тел. (8-01592) 44717.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*
- Мэбля пад заказ, кухні, шафы і г. д. ІП Зянюк А.П. УНП 691183866. Т. (8-029) 3652054, (8-029) 5652044.*
- Рамонт камп’ютараў, ноўтбукаў, маніотраў, планшэтаў. ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223.*
- Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*
- Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*
- Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*
- Сталяр-цясляр, лесвіцы, лазня, дамы, матэрыялы. ІП Кароль М.Ф. УНП 690689147. Т. (8-029) 6937096.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

- Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*
- Цэгла віцебская, вогнетрывалая, пячное ліццё, кладачныя сумесі. Т. (8-029) 8351640, (8-044) 7557072.*

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**



- Антэна спадарожнікавая. Т. (8-029) 5019550.*

**Іншае**

- Дровы з дастаўкай. Т. (8-025) 7331501.*
- Дровы нядорага, дастаўка бясплатная. Т. (8-029) 6106061.
- Піяніна нямецкае колеру «арэх». Т. (8-029) 6289816.*
- Электраводанагравальнік. Т. (8-029) 9139773.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

- Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

- 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*
- Ціскі, можна няспраўныя. Т. (8-029) 8794563.*

### ЗГУБЛЕНА

- Згубленае пасведчанне ІП аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 690689213 ад 19.07.2017г. лічыць несапраўдным.

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

- Бухгалтар (грузаперавозкі, 1С). Досвед абавязковы. Зарплата дастойная. Т. (8-044) 7640814.



**ПАДАЧА АБ’ЯЎ І РЭКЛАМЫ Ў БЛІЖЭЙШЫ НУМАР** «РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ» – **да 16:00 серады.**
Аддзел рэкламы: (8-0176) **53-78-04** (тэл./факс), (8-029) **676-84-20, 573-28-47.**
E-mail: **reklama@rh.by.**



Фота Васіля ШЭРАГА.

Роза Шэрая падчас кіравання народным музеем «Вілейшчына літаратурная». Побач навуковец Адам Мальдзіс.

# Вучні ільянскай школы сустрэліся з паэткай і педагогам Розай Шэрай

ВІЛЕЙКА

**Як у Ільянскай сярэдняй школе імя Грымацэ ўзнік народны музей «Вілейшчына літаратурная»? Гэтае пытанне не раз задавалі юныя экскурсаводы музея.**

Адказ хацелі пачуць з першых вуснаў. Таму на чарговае пасяджэнне клуба «Цікавыя сустрэчы» вырашылі запрасіць былога кіраўніка музея «Вілейшчына літаратурная», аднаго з яго заснавальнікаў Розу Шэрую.

**Роза Канстанцінаўна была рада сустрэчы з вучнямі. Амаль усё яе жыццё прайшло ў сценах школы, сярод такой няўрымслівай і цікаўнай дзятвы.**

– Школьны літаратурны музей, які быў адкрыты ў 1992 годзе – вынік працаглай творчай і захапляльнай работы вучняў і педагогаў. Актыўна ўдзельнічалі ў стварэнні музея былы інспектар Вілейскага РАА **Уладзімір Весялуха**, настаўнікі беларускай мовы і літаратуры, былы дырэктар школы **Ігар Сонiч**. Дапамагалі амаль усе настаўнікі школы. Нам пашанцавала і ў тым, што ў хуткім часе пасаду дырэктара заняў **Ігар Юшко** – таленавіты арганізатар, чалавек, зацікаўлены гісторыяй роднага краю.

**А калі за справу бяруцца такія апантаныя людзі, то добрых вынікаў доўга чакаць не даводзіцца. У 2010 годзе музею быў нададзены статус народнага, – падзялілася госця.**

Таксама Роза Канстанцінаўна крыху распавяла пра тое, чым жыве сёння. Яна шмат чытае, працягвае пісаць творы і плануе выдаць зборнік вершаў. А яшчэ піша летапіс сваёй сям'і.

На сустрэчы дзеці слухалі новыя вершы аўтаркі – «Фатограф», прысвечаны мужу **Васілію**, вершы «Ручай», «Слова» і іншыя.

Роза Канстанцінаўна дзялілася жыццёвым досведам, давала парады дзецям, расказвала пра прыгажосць і значэнне слова, заклікала вучняў у век інтэрнэту не забываць кнігу.

**На яе думку, успрыняцце літаратурных твораў з папяровых старонак зусім іншае, больш глыбокае і асэнсаванае, чым з экрана манітора.**

Вучні расказвалі пра вучобу ў школе, працу ў музеі, дзяліліся сваімі планамі. Сустрэча прайшла ў форме гутаркі-дыялогу.

**Аксана ШУШКЕВІЧ,**
**кіраўнік музея «Вілейшчына літаратурная» Ільянскай сярэдняй школы імя Грымацэ.**

**Тэлефонныя коды**
гарадоў рэгіёна:

| | |
|---|---|
| Астравец | -01591 |
| Ашмяны | -01593 |
| Валожын | -01772 |
| Вілейка | -01771 |
| Маладзечна | -0176 |
| Мядзел | -01797 |
| Смаргонь | -01592 |

# Фатограф дзякуе сваім прыхільнікам і запрашае на чарговую выставу

МАЛАДЗЕЧНА

**Праз «Рэгіянальную газету» дзякую ўсім, хто наведаў маю фотавыставу ў Маладзечанскім Палацы культуры, што доўжылася летам і восенню.**

Радуюся таму, што ў сшытку водгукаў шмат запісаў з уражаннямі ад выставы «Погляд у мінулае».

Працяг маіх фотавыстаў шукайце ў Маладзечне ў бібліятэцы №1 па вуліцы **Будаўнікоў, 24.** Гэта выстава называецца «Пра шахту і шахцёраў». На ёй – 45 здымкаў, зробленых для альбома нашай сям'і. Фота распавядаюць пра цяжкую фізічную працу ў шахце.

Дзякуй усім, хто наведае маю новую выставу. І запрашаю.

**Аляксандр САЛАГУБ,**
**Маладзечна.**



Фота Ігара ПАЛЬЧЫНСКАГА.

# Што чакаць ад 2020 года

**Гаспадаром Новага года будзе Белы Металічны Пацук. Гэты хітры і прагматычны сімвал зменіць Свінню.**

У сваю сілу год увойдзе 25 студзеня.

### Якім будзе год Пацука

Па ўсходніх вераваннях, менавіта Пацук першы прыйшоў да Буды, і таму стаў першым знакам календара. Але першынство ён атрымаў несумленна. Прыехаў на спіне Быка, а ў апошні момант скочыў перад ім.

Так што гаспадар 2020 года – няпросты, прагматычны, хітры. Да таго ж 2020 – высакосны год. Гэта значыць, народжаныя 29 лютага нарэшце справяць дзень нараджэння. А ўсім варта памятаць, чаго лепш не рабіць у такі год. Калі магчыма, варта перанесці пачатак важных спраў на іншы перыяд – будаўніцтва дома або адкрыццё бізнесу, калі вы верыце ў забабоны. Лічыцца, што ў высакосныя гады часцей адбываюцца прыродныя катастрофы – лясныя пажары, землятрусы.

Пацукі – вельмі разумныя жывёлы, здольныя выжыць у любых умовах. Таму ў свой год гаспадар будзе патрабаваць кемлівасці, умення і рашучасці думаць і дзейнічаць нестандартна. Гэта год для смелых і амбіцыйных людзей.

Колер Пацука ў будучым годзе – белы. Гэта будзе патрабаваць справядлівасці і шчырасці. Рызыкуйце і дзейнічайце з разлікам і здаровым сэнсам. Удача будзе спрыяць тым, хто цэніць сяброўства і дамашнюю ўтульнасць.

Белы Пацук будзе Металічны, і гэта абароніць нас ад небяспекі высакоснага года.

### Як пазбегнуць небяспекі высакоснага года

Усіх складанасцяў можна пазбегнуць, калі пастарацца выконваць наступныя рэкамендацыі.

Пастарайцеся пазбягаць рэзкіх перамен у жыцці. Набываць жыллё, мяняць працу, пачынаць сваю справу, купляць або прадаваць жывёл лепш у іншы год. Калі магчыма перанесці вяселле або вянчанне на іншы час, лепш так і зрабіць. А калі народзіцца дзіця, бярыце ў хросныя сваякоў па крыві.

Таксама варта менш часу праводзіць з людзьмі, якіх можна назваць энергетычнымі вампірамі. Будзьце пільныя, каб не трапіць на нядобрасумленных кліентаў.

### Народжаныя ў год Пацука

Гады Пацука: 1924 – Драўляны Пацук, 1936 – Вогненны Пацук, 1948 – Земляны Пацук, 1960 – Металічны Пацук, 1972 – Вадзяны Пацук, 1984 – Драўляны Пацук, 1996 – Вогненны Пацук, 2008 – Земляны Пацук.

Тыя, хто нарадзіўся ў год Пацука, – таленавітыя і багатыя на харызму людзі. Яны красамоўныя, абаяльныя і пачуццёвыя. Карацей, уражанне ад іх – поўная супрацьлегласць уражанню ад рэальных пацучкоў у большасці людзей.

У Пацукоў выдатна развітая інтуіцыя, маюць багатае ўяўленне і развітую назіральнасць. Яны ўмеюць добра выкарыстоўваць магчымасці. Надзвычай цікаўныя, гатовы паспрабаваць сілы ў чым заўгодна і дабіцца поспеху.

Пацукі не імкнуцца да лідарства, яны разумеюць, што гэта не самы лепшы для іх варыянт. Але свае мэты яны цудоўна ўвасабляюць іншымі шляхамі. Гэта добрыя людзі, але іншым можа падавацца, што яны не зусім ветлівыя. Любяць Пацукі позна класціся спаць і позна прачынацца.

Вы актыўныя, любіце фізічныя нагрузкі – гэта добра ўмацоўвае здароўе. У стрэсавых сітуацыях лепш за ўсё пайсці прагуляцца.

### Чым варта займацца Пацукам

Вы надзвычай праніклівыя і дальнабачныя. А цвярозы рацыянальны падыход да спраў дазволіць пазбавіцца ад лішніх клопатаў. Вы асцярожна і адказна ставіцеся да працы.

Найлепш атрымаецца паказаць свае якасці на пазіцыях адміністратара, прадпрымальніка, вядучага, музыканта, юрыста, навуковага супрацоўніка, кіроўцы.

Вам важна падтрымліваць адносіны з самымі рознымі людзьмі. Але па-сапраўднаму зблізіцца вам няпроста. Вы лёгка пачынаеце адносіны, але таксама лёгка і заканчваеце іх. Найлепш Пацукі сумяшчаюцца з Быком, Драконам і Трусам. Найменш удалае спалучэнне з Канём і Пеўнем.

### Вядомыя людзі, народжаныя ў год Пацука

Пятро Бітэль, Максім Танк, Васіль Быкаў, Юры Зісер, Міхась Казлоўскі, Віктар Шніп.

Шэкспір, Моцарт, Эміль Заля, Луі Амстранг, Жуль Вэрн, Чэрчыль, каралева Лізавета.

### Што чакае Пацука ў 2020

У новым годзе прадстаўнікоў знака чакае поспех у кар'еры. Вы атрымаеце шмат магчымасцяў, каб годна паказаць сябе. Важна скарыстацца імі.

Грашовыя прыбыткі ў большым і меншым памерах чакаюць вас цягам усяго года. Магчымыя прэміі на працы, выйгрышы ў латарэі.

Што тычыцца кахання, то знайсці спадарожніка жыцця малаверагодна. Сур'ёзныя любоўныя захапленні могуць напаткаць вас напрыканцы года. Калі ж у вас ужо ёсць адносіны, старайцеся пазбягаць спрэчак.

Са здароўем не павінна быць сур'ёзных праблем. Але і запускаць яго не трэба.

Новы 2020 год прынясе поспех і ўдачу, але не губляйце галавы і да справы падыходзьце з цвярозым розумам.

**Эмілія ХВОЯ.**



# тэлетыдзень

16-22 снежня

Передрук праграмы забаронены.
У праграме магчымыя змяненні.

27 каналаў ад «Рэгіянальнай газеты»

● ЖАНР ТЭЛЕТЫДНЯ

## Эвалюцыя нуара

### Чаму гэты жанр дагэтуль папулярны



З кнігі «Сто графічных тэстаў».

Кадр з фільма Аляксея Балабанава «Брат».

**Успамінаем, якім быў нуар у залатую эпоху, як мяняўся ў наступныя паўстагоддзя і чаму заўсёды заставаўся актуальным.**

Нуар – кінематаграфічны жанр, у якім адлюстравана атмасфера песімізму, недаверу, расчаравання і цынізму.

У нуары павінны быць самотныя героі з маральным кодэксам самурая, небяспечныя прыгажуні, начны вырат гарадоў, этычны рэлятывізм і фаталізм, але прысутнасць усіх гэтых кампанентаў неабавязковая, як адмысловы дэкадэнцкі настрой.

Нуар не столькі набор прыёмаў і ўмоўнасцяў, колькі спосаб глядзець на свет. Гэта яскрава паказваецца ў дыялогу паміж героямі Роберта Мітчэма і Джэйн Грыр у класічным нуары «З мінулага»:

– Так не гуляюць у рулетку, так у ёй не выйграць.

– Хіба ёсць спосаб у ёй перамагчы?

– Ёсць спосаб прайграць не так хутка.

Крымінальныя сюжэты ў кіно былі заўсёды, але з'яўленне гуку ў 1930-я дазволіла насыціць сцэнарыі дыялогамі. Эратызм для жанру абавязковы, але прама дэманстраваць агаленне рэжысёры не маглі, даводзілася прыдумваць больш складаныя і тонкія, а таму больш хвалюючыя вобразы. Галоўная гераіня нуара – femme fatale, ці фатальная жанчына.

Трывожная атмасфера, а таксама рэзкае святло і касыя ракурсы прыйшлі з нямецкага нямога кіно і экспрэсіянізму. Раней амерыканцаў феномен нуара заўважылі, апісалі і назвалі менавіта французы пасля Другой сусветнай вайны.

Стромкія дэтэктывы, нямецкія эмігранты і французскі ўплыў – усё гэта не тлумачыць, чаму нуар не проста ўбудоўваецца ў жанравую сістэму каліфарнійскіх студый, але апынуўся настолькі важным, папулярным і даўгавечным яе элементам.

#### З'яўленне неануару

У 1960-х французскія крытыкі Раймон Борд і Эцьен Шамэтон упершыню выкарысталі тэрмін «film noir» – «чорны фільм». Яны сфарміравалі канцэпцыю з'яўлення нуару: рэалістычныя сюжэты (з-за Другой сусветнай і атамнай бомбы) і распаўсюджванне ў ЗША псіхааналізу.

Для аўтараў французскай новай хвалі нуар стаў адным з галоўных узораў для пераймання. Нуарператварыўся ў міжнародную з'яву. Але і ў ЗША ён нікуды не знік – толькі атрымаў прыстаўку «неа».

Галоўнае адрозненне неануара (акрамя каляровай плёнкі, вядома) было ў магчымасці казаць пра ўсё прама, без іншасказанняў. Марціну Скарсэзэ не прыйшлося звяртацца да эўфемізмаў, паказваючы бардэль і порнакінатэатр у «Таксісце».

Невыпадкова пікі «чорнага фільма» прыпадаюць на часы грамадскіх узрушэнняў. У Расіі гэта перабудова і дзевяностыя, і галоўны рускі нуар – «Брат» Балабанава.

Варыяцыі нуара працягваюцца і ў самых папулярных формах сучаснага кіно. Адтуль маральная неадназначнасць Бэтмэна ў трылогіі «Цёмнага рыцара», прывабнасць злодзея Джокера ды і сам Готэм, які нагадвае пра злыя вуліцы нуарнага Нью-Ёрка.

Цяпер неануар можна бачыць у серыялах. У шоу няма цалкам станоўчага пратаганіста. Самы папулярны герой – цынік і мізантроп, які ведае, што няма спосабу выйграць у рулетку. Здаецца, за 80 гадоў нічога не змянілася.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**





## 8 канал

ВОСЬМОЙ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 16 ДЕКАБРЯ**

**7.00, 15.55, 18.05, 21.05, 0.00** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мульт-сериал «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.35, 16.00** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«ИЗ 13 В 30».**
**9.20** Х/ф **«НЕВИДИМЫЙ ГОСТЬ».**
**11.05** Д/ф «ДИНАСТИЯ».
**11.45** Х/ф **«ЗЕЛЕНАЯ КНИГА».**
**14.00, 20.00** Т/с **«МИСТЕР РОБОТ».**
**14.50** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.30** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**17.20** Д/ф «КАК СТАТЬ ВЗРОСЛЫМ».
**18.10** Т/с **«ШАКАЛ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«СЕЛФИ».**
**23.10** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**

**ВТОРНИК, 17 ДЕКАБРЯ**

**7.00, 15.50, 18.05, 21.05, 0.05** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мульт-сериал «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.35, 15.55** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«ЖЕЛЕЗНАЯ ХВАТКА».**
**9.30, 18.10** Т/с **«ШАКАЛ».**
**11.20** Д/с «Большой скачок».
**11.50** Х/ф **«СЕЛФИ».**
**13.50, 20.00** Т/с **«МИСТЕР РОБОТ».**
**14.45** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**16.00** «Мульт-парад».
**16.10** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**16.30** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**17.15, 23.20** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ДЕВУШКА В ТУМАНЕ».**

**СРЕДА, 18 ДЕКАБРЯ**

**7.00, 15.55, 18.10, 21.05, 0.05** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мульт-сериал «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.35, 16.00** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«ДЕВЯТЬ ЯРДОВ».**
**9.20, 19.05** Т/с **«ШАКАЛ».**
**11.10** Д/с «Большой скачок».
**11.40** Х/ф **«ДЕВУШКА В ТУМАНЕ».**
**13.50, 20.00** Т/с **«МИСТЕР РОБОТ».**
**14.45** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.30** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**17.20, 23.15** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**
**18.15** «Законы привлекательности».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ЧАС РАСПЛАТЫ».**

**ЧЕТВЕРГ, 19 ДЕКАБРЯ**

**7.00, 15.55, 18.55, 21.05, 0.05** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мульт-сериал «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.35, 16.00** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«НОЧЬ В МУЗЕЕ».**
**9.35, 19.00** Т/с **«ШАКАЛ».**
**10.30** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**11.00** Д/ф.
**11.50** Х/ф **«ЧАС РАСПЛАТЫ».**
**14.00, 20.00** Т/с **«МИСТЕР РОБОТ».**
**14.50** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.10** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**17.00, 23.15** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**
**18.15** «Готовь как шеф».
**18.45** «Фешн is my профешн».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«НОТТИНГ ХИЛЛ».**

**ПЯТНИЦА, 20 ДЕКАБРЯ**

**7.00, 15.55, 19.00, 21.05, 1.10** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мульт-сериал «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.35, 16.00** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«ВО ВРЕМЯ ГРОЗЫ».**
**9.50, 19.05** Т/с **«ШАКАЛ».**
**10.45** «Готовь как шеф».
**11.15** Д/ф «БОЛЬШОЙ СКАЧОК».
**12.00** Х/ф **«НОТТИНГ ХИЛЛ».**
**14.00, 20.00** Т/с **«МИСТЕР РОБОТ».**
**14.50** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.30** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**18.10** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ПИРАТЫ КАРИБСКОГО МОРЯ».**
**23.40** Х/ф **«ПОЛОСАТЫЙ РЕЙС».**

**СУББОТА, 21 ДЕКАБРЯ**

**7.00** «Погода»+ «Эрана».
**7.10** Мультфильмы «Зверополис».
**8.50** Х/ф **«ПОЛОСАТЫЙ РЕЙС».**
**10.30** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**10.50** Х/ф **«ФОРМУЛА ЛЮБВИ».**
**12.25** Х/ф **«ПРИШЕЛЬЦЫ».**
**14.25, 19.00, 21.15, 1.30** «Погода» + «Эрана».
**14.30** «Смотрим всей семьей». Мультфильм «Лесной патруль».
**15.40** Х/ф **«О БЕДНОМ ГУСАРЕ ЗАМОЛВИТЕ СЛОВО».**
**18.30** «Законы привлекательности».
**19.05** Х/ф **«ПОСЛЕДНЕЕ ТАНГО».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** «Жестокие мужские игры». «Пилигрим».
**23.00** Х/ф **«ПЛЕННИЦЫ».**

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 22 ДЕКАБРЯ**

**7.00, 14.55, 19.05, 21.05, 1.10** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мультфильмы «Иван царевич и серый волк».
**8.40** Х/ф **«АФОНЯ».**
**10.10** «Утрямдия».
**10.15** «Готовь как шеф».
**10.30** «Законы привлекательности».
**11.15** Х/ф **«БРИДЖЕС ДЖОНС».**
**13.00** Х/ф **«ВЛЮБЛЕННЫЕ».**
**15.00** «Смотрим всей семьей». «Мой друг дельфин».
**16.30** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ». «ТАЙНА СИНЕГО ПОЕЗДА».**
**18.15** Т/с **«КАСЛ».**
**19.10** Х/ф **«РУБЕЖ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** «Удивительный мир Марвина».
**23.05** Х/ф **«В ДЖАЗЕ ТОЛЬКО ДЕВУШКИ».**



## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 16 ДЕКАБРЯ**

**6.30** Х/ф **«ЗЕЛЕНЫЙ ШЕРШЕНЬ».**
**8.25** Х/ф **«ИМЯ».**
**10.20** Мая Радзіма.
**10.35, 14.35, 15.15, 22.20** Мажорный лад.
**13.00** Х/ф **«МОЕ БОЛЬШОЕ ГРЕЧЕСКОЕ ЛЕТО».**
**15.00, 18.00** Новости БЖД.
**17.40, 19.20, 20.20** Будьте здоровы.
**18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.

**ВТОРНИК, 17 ДЕКАБРЯ**

**6.30, 7.50, 8.20, 18.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.20** Мая Радзіма.
**8.25** Х/ф **«ШЕФ».**
**9.50** Х/ф **«РОЖДЕСТВЕНСКИЕ ХРОНИКИ».**
**11.30** Х/ф **«СКАНДИНАВСКИЙ ФОРСАЖ».**
**13.05** Свет души.
**14.40** Х/ф **«МОШЕННИКИ».**
**16.15** Х/ф **«ЛЕГОК НА ПОМИНЕ».**
**17.35, 22.20** Мажорный лад.
**19.20** Театральная гостиная.
**20.20** Х/ф **«О ЧЕМ МОЛЧАТ ДЕВУШКИ».**

**СРЕДА, 18 ДЕКАБРЯ**

**6.30, 7.50, 17.40, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.20** Мнения и факты.
**8.20** Х/ф **«ЛЕГОК НА ПОМИНЕ».**
**9.35** Песня на завтрак.
**10.35** Х/ф **«БОЛЬШОЙ СОЛДАТ».**
**12.10** Х/ф **«БАРХАТНЫЕ РУЧКИ».**
**13.50** Х/ф **«ДЖЕНТЛЬМЕНЫ УДАЧИ».**
**15.30, 17.50, 22.20** Мажорный лад.
**19.20** Мая Радзіма.
**20.30** Музыкальная открытка.

**ЧЕТВЕРГ, 19 ДЕКАБРЯ**

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**6.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**9.10** Х/ф **«МЕЖДУ АНГЕЛОМ И БЕСОМ».**
**11.05** Х/ф **«ШПИОН ПО СОСЕДСТВУ».**
**12.40** Х/ф **«ЗЕЛЕНЫЙ ШЕРШЕНЬ».**
**14.45** Х/ф **«БОЛЬШЕ ЧЕМ ДРУГ».**
**16.30** Мнения и факты.
**16.50, 22.20** Мажорный лад.
**19.20** Будьте здоровы.
**20.20** Х/ф **«ОЧЕНЬ ОПАСНАЯ ШТУЧКА».**

**ПЯТНИЦА, 20 ДЕКАБРЯ**

**6.30, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00** Новости: время местное.
**7.20, 8.20** Песня на завтрак.
**10.00** Х/ф **«МОШЕННИКИ».**
**11.35** Х/ф **«СВИДЕТЕЛЬ НА СВАДЬБЕ».**
**13.10** Х/ф **«ПОВЕЛИТЕЛИ СНОВ».**
**14.30** Х/ф **«БАРХАТНЫЕ РУЧКИ».**
**16.10, 22.30** Мажорный лад.
**19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**19.30** Рядом со звездами.
**20.20** Х/ф **«РАЗБОРКИ В СТИЛЕ КУНГ-ФУ».**

**СУББОТА, 21 ДЕКАБРЯ**

**6.30, 8.40** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.20, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**7.20** По правилам таможни.
**9.40** Х/ф **«КУХНЯ: ПОСЛЕДНЯЯ БИТВА».**
**11.15** Х/ф **«СУПЕРГЕРОЙСКОЕ КИНО».**
**13.00** Х/ф **«УЛЬТРААМЕРИКАНЦЫ».**
**14.40** Х/ф **«СВИДЕТЕЛЬ НА СВАДЬБЕ».**
**16.15, 21.10** Новости БЖД.
**16.25, 22.30** Мажорный лад.
**19.20** Театральная гостиная.
**20.30** Музыкальная открытка.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 22 ДЕКАБРЯ**

**6.30** Х/ф **«АФЕРИСТЫ ПОНЕВОЛЕ».**
**8.05** Х/ф **«БАРХАТНЫЕ РУЧКИ».**
**9.45** Х/ф **«БОЛЬШАЯ СВАДЬБА».**
**11.10** Х/ф **«БОЛЬШЕ ЧЕМ ДРУГ».**
**12.55** Х/ф **«ДЖЕНТЛЬМЕНЫ УДАЧИ».**
**14.35** Х/ф **«ДИКАЯ ШТУЧКА».**
**16.10** Х/ф **«БОЛЬШОЙ СОЛДАТ».**
**17.45** Х/ф **«ИДЕАЛЬ».**
**19.15, 22.10** Х/ф **«МАЖОРНЫЙ ЛАД».**
**20.20** Х/ф **«ИМЯ».**

## Беларусь 1

**6.25** Х/ф **«ТРИ В ОДНОМ 2».**

**8.15** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.45** Истории спасения.

**10.25** «Все за стол! «.

**11.15** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Кулинарная дипломатия.

**13.15** Х/ф **«НЕЛЕГКОЕ СЧАСТЬЕ».**

**15.15** Твой город.

**15.30** Маршрут построен.

**16.10** Х/ф **«ПОДМЕНА».**

**19.45** «На вылет!». Развлекательно-интеллектуальное шоу.

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.10** Х/ф **«ЛЮБОВЬ ВНЕ КОНКУРСА».**

## Беларусь 2

**6.55** «Свадебный размер». Реалити-шоу.

**7.50** Т/с **«ПИНГВИНЫ ИЗ МАДАГАСКАРА».**

**9.05, 19.35** Телебарометр.

**9.10** «Секретный миллионер». Социальное реалити-шоу.

**10.20** «Верю не верю». Трэвел-шоу.

**11.20** «До свидания». Реалити-шоу.

**12.10** «Подиум». Фэшн-шоу.

**13.20** Фантастическая сага «Голодные игры: Сойка-пересмешница» 16+).

**15.20** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.45** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.

**20.10** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«НЕПРИСТОЙНОЕ ПРЕДЛОЖЕНИЕ».**

**23.15** «Супержена». Реалити-шоу.

**0.10** «Третий лишний». Реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 16.20, 20.15** Навіны культуры.

**8.20, 16.40, 20.35** «Гэты дзень».

**8.25** «Мороз Иванович». Мультфільм.

**8.35** «Шчыра Ваш…» Мастацкі фільм.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Сырнікі.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.50** «Майстры і куміры». Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Георгій Маляўскі.

**12.40** «Маёр Віхар». Мастацкі фільм.

**16.45** «Майскія зоркі». Мастацкі фільм.

**18.20** «Квартэт Гварнеры». Мастацкі фільм.

**20.00** «Архітэктура Беларусі».

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Юлька». Мастацкі фільм.

**22.20** «Тэатр у дэталях». Спектакль Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек «Вельмі маленькія трагедыі».

**22.45** «Во славу общей Победы!» Канцэрт у Храме-помніку ў гонар Усіх Святых.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.05** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.45** Х/ф **«ЛЮБИМАЯ».**

**11.35** «Видели видео?».

**13.05** Премьера. «Лео Бокерия. Сердце на ладони».

**14.05** Премьера. Праздничный концерт.

**16.20** «Точь-в-точь».

**18.30** Шоу Максима Галкина «Лучше всех!» Новый сезон.

**20.00** Контуры.

**21.20** ОНТ представляет: «Беларусь. Достояние Республики».

**22.15** «Что? Где? Когда?» Зимняя серия игр.

**23.30** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.50** «Про любовь».

## СТВ

**6.00** «Пища богов».

**7.35, 20.35** Документальный спецпроект.

**9.10** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.05** Документальный проект.

**12.20, 13.40, 16.40** Т/с **«НИКОНОВ И КО».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**22.15** «Неделя спорта».

**22.45** «Засекреченные списки».

**0.00** Т/с **«NEXT 3».**

## Мир

**6.00** «Миллион вопросов о природе».

**6.10** «Беларусь сегодня».

**6.40** Мультфильмы.

**7.40** «Культ/туризм».

**8.15** «Еще дешевле».

**8.45** «Всемирные игры разума».

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.15** «С миру по нитке».

**10.50** «Игра в правду».

**11.50, 16.15, 19.30** Т/с **«ВЕСНА В ДЕКАБРЕ».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**21.00, 1.00** Т/с **«ВЛЮБЛЕННЫЕ ЖЕНЩИНЫ».**

## НТВ-Беларусь

**6.05** «Астропрогноз».

**6.25** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.55** «Тело человека».

**7.25** «Дача».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** Дело жизни. Возрождение.

**8.40** «Однажды…».

**9.20** «Кто в доме хозяин?».

**10.25** «Первая передача».

**11.00** «Чудо техники».

**12.00** «Дачный ответ».

**13.05** «НашПотребНадзор».

**14.10** «Секрет на миллион». Ирина Лобачева.

**16.20** «Следствие вели…».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.10** «Звезды сошлись».

**21.30** Ты не поверишь!

**22.35** Премьера. «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**23.10** «Россия рулит!».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«КРИВОЕ ЗЕРКАЛО ЛЮБВИ».**

**10.30** «Смехопанорама».

**11.00** ВЕСТИ.

**11.20** «Сам себе режиссер».

**12.15** «Утренняя почта».

**13.00** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».

**14.00** ПРЕМЬЕРА. «Смеяться разрешается».

**14.45** Х/ф **«РОДНАЯ КРОВЬ».**

**18.25** ПРЕМЬЕРА. «Всероссийский открытый телевизионный конкурс юных талантов «Синяя Птица».

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.15** ПРЕМЬЕРА. «В людях».

**21.45** Х/ф **«ДВА БИЛЕТА В ВЕНЕЦИЮ».**

**23.20** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**0.00** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10** Охотники за привидениями 2. **8.05** Афера по-американски. **10.40** Резня. **12.05** Давайте потанцуем. **14.00** Свадьба лучшего друга. **15.55** Гонка века. **17.40** Код Да Винчи. **20.20** Ангелы и Демоны. **22.50** Обливион. **1.05** Мадам. **2.45** Власть страха. **4.40** Эван Всемогущий.

### TV1000 ACTION

**6.50** Потрошители. **9.00** Его собачье дело. **10.45** Страховщик. **12.45, 5.10** Револьвер. **14.45** Ускорение. **16.25** Человек-паук 2. **18.40** Человек-Паук 3. **21.10** 24 часа на жизнь. **22.50** Ужас Амитивилля: Пробуждение. **0.15** Патриот. **3.10** Обитель теней.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.15** Все включено 2. **9.10** Одинокая женщина желает познакомиться. **10.50** Статский советник. **13.15** Дикая Лига. **15.25** Дар. **17.05** Папа. **18.55** Любовь с акцентом. **20.45** Призрак. **22.50** Грецкий орешек. **0.30** Рассказы. **2.30** Прощаться не будем. **4.20** ЖАRA.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **11.00, 12.00** Т/с **«ОБМАНИ МЕНЯ». 12.45** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК ТЬМЫ». 14.45** Х/ф **«САБОТАЖ». 16.45** Х/ф **«БАГРОВЫЕ РЕКИ». 19.00** Х/ф **«ИМПЕРИЯ ВОЛКОВ». 21.30** Х/ф **«22 ПУЛИ: БЕССМЕРТНЫЙ». 0.00** Х/ф **«ВЕТРЕНАЯ РЕКА». 2.00** Х/ф **«КРИК 4». 4.00, 4.15, 4.45, 5.15, 5.30** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ВСЕГДА ГОВОРИ ВСЕГДА 8». 12.00, 13.00, 4.00, 5.00** Т/с **«БЛИЗКИЕ ЛЮДИ». 14.00, 15.00, 6.00, 7.00** Т/с **«СПАСИТЕ НАШИ ДУШИ». 20.00, 21.00** Т/с **«ЗАПАСНОЙ ИНСТИНКТ». 22.00, 23.00** Т/с **«ГЛАВНЫЕ РОЛИ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.10** Х/ф **«ВЫКРУТАСЫ». 3.00** Х/ф **«РЕАЛЬНЫЙ ПАПА». 4.45** Х/ф **«МОЙ ПАРЕНЬ – КИЛЛЕР». 6.35** Х/ф **«ОФИСНЫЙ БЕСПРЕДЕЛ». 8.15** Х/ф **«ПЛЕЙБОЙ ПОД ПРИКРЫТИЕМ». 10.00** Х/ф **«ДЖУНГЛИ ЗОВУТ! В ПОИСКАХ МАРСУПИЛАМИ». 12.00** Х/ф **«ГОЛАЯ ПРАВДА». 13.55** Х/ф **«АФЕРИСТЫ ДИК И ДЖЕЙН». 15.35** Х/ф **«НЕВЕРОЯТНЫЙ БЁРТ УАНДЕРСТОУН». 17.30** Х/ф **«ВСЕГДА ГОВОРИ «. 19.30** Х/ф **«КУХНЯ В ПАРИЖЕ». 21.30** Х/ф **«КУХНЯ. ПОСЛЕДНЯЯ БИТВА». 23.40** Х/ф **«ДЖУНГЛИ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.00, 20.20, 21.20, 22.20, 23.25** Частица вселенной. **1.05, 2.10, 3.00, 4.00** Каин. Исключение из правил. **5.00, 6.05, 7.00, 8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 12.00** Охота на дьявола. **13.00, 13.55, 14.50, 15.45, 16.40, 17.40, 18.35, 19.30** Чисто английские убийства.

### ВТВ

**6.00, 8.20, 9.10, 10.45, 12.25, 14.50, 17.35, 19.25, 20.55, 23.05** Прогноз погоды на неделю. **6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.20** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **8.25** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **9.15** Т/с **«ЕРАЛАШ». 9.55** Мультфильмы «ЦАРЕВНЫ». **10.20** Мультфильмы «УТИНЫЕ ИСТОРИИ». **10.50** Шоу «САРАНХЭ». **11.50** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.30** Т/с **«СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ». 14.55** Х/ф **«КАРАТЭ-ПАЦАН». 17.40** Шоу «ФОРТ БОЯРД». **19.30** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **21.00** Х/ф **«ОПАСНЫЕ ПАССАЖИРЫ ПОЕЗДА 123». 23.10** «КВН. ПА-НАШАМУ». **0.10** Т/с **«МЕТОД ЛАВРОВОЙ». 2.05** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **2.35** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.20** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.25** Фристайл. Лыжная акробатика. Кубок мира. Китай. Мужчины. Женщины. **8.25** Тренировочный день. **8.55** Фристайл. Лыжная акробатика. Кубок мира. Китай. Микст. **10.30** Биатлон. Кубок мира. Ле Гран Борнан. Гонка преследования. Мужчины. Женщины. **12.05** Футбол. Клубный чемпионат мира. Финал. **14.00** Биатлон. Кубок мира. Ле Гран Борнан. Масстарт. Мужчины. **14.55** Пит-стоп. **15.30** Игры «на вырост». **16.05** Биатлон. Кубок мира. Ле Гран Борнан. Масстарт. Женщины. **16.50** Волейбол. Кубок Беларуси. Мужчины. Финал. **19.10** Вот это спорт! **19.20** Спорт-центр. **21.20** Итоги недели. **22.05** Биатлон. Кубок мира. Ле Гран Борнан. Масстарт. Мужчины. Жещины.

### EUROSPORT

**0.05** Горные лыжи. Кубок мира. Валь-д'Изер. Женщины. Скоростной спуск. **1.00, 5.00, 11.00** Горные лыжи. Кубок мира. Валь-Гардена. Мужчины. Скоростной спуск. **2.00** Сноуборд. Кубок мира. Червиния. Кросс. **3.00, 9.00, 10.30** Биатлон. Кубок мира. Анси. Мужчины. Гонка преследования. **3.30** Плавание. International Swimming League. Лас-Вегас. Второй день. **6.00, 16.55, 22.40** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Энгельберг. Мужчины. HS 140. **7.00** Олимпийские игры. «Вопреки всему». **7.30** Олимпийские игры. Foul Play. **8.00** Олимпийские игры. «Зал Славы». Лондон-2012. **11.50, 19.30** Горные лыжи. Кубок мира. Альта Бадиа. Мужчины. Слалом-гигант. 1-я попытка. **13.00** Горные лыжи. Кубок мира. Валь-д'Изер. Женщины. Комбинация. Супергигант. **14.10, 21.20** Биатлон. Кубок мира. Анси. Мужчины. Масс-старт. **15.00, 20.15** Горные лыжи. Кубок мира. Альта Бадиа. Мужчины. Слалом-гигант. 2-я попытка. **16.00, 22.00** Биатлон. Кубок мира. Анси. Женщины. Масс-старт. **18.45** Горные лыжи. Кубок мира. Валь-д'Изер. Женщины. Комбинация. Слалом.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 7.00** Эконом-тест. **6.15, 7.15** Металлоломщики. **8.00, 10.30, 13.05, 16.30, 19.30, 0.50, 2.00, 4.45** Итоговые новости. **8.20** Автодрайв. **8.45, 3.30** Тест на «Драйве». **9.15, 12.35, 13.50, 20.40, 0.05, 5.00** Возвращение легенды. **9.50, 10.50, 18.10, 18.45, 2.15, 2.50** Байки про байки. **11.25** Испытание на прочность. **12.00, 19.45, 20.05, 23.10, 23.30, 4.00, 4.15** Работяги. **12.15, 20.25, 23.45, 4.30** Хорошо забытое. **13.20** Народный тест драйв. **14.20, 14.35** Куда уходит детство. **14.45** Комплектация. Эксклюзив. **15.20, 21.30** Резьба по стали. **15.50, 22.00** Вечер с Пикуленко. **16.50, 22.45, 5.45** Тайный покупатель. **17.10, 1.05** «Здесь был «Драйв». **21.10, 0.35** Легенды автопрома. **23.00** Обновление. **5.30** Электродрайв.

### EXPLORE

**6.00** Рыбалка со звездами. **6.25, 7.15, 8.10, 9.00** Невероятная рыбалка. **9.50, 10.40, 11.30, 12.20, 13.10, 14.00, 14.50, 15.40, 16.30, 17.20** Выживание в лесу. **18.10, 19.00, 19.45, 20.30, 21.15, 22.05, 22.50, 23.35** Австралийские золотоискатели. **0.25, 1.10** Поисковая команда в Австралии. **1.55, 2.45, 3.35, 4.20, 5.10** Ковбои ледяных вод.

### HISTORY

**6.00** Тайны Парижа. **6.30, 8.15** Разгадка тайны пирамид. **7.25, 1.55, 2.20** Родовые проклятья. **9.15, 10.10, 11.05** Тайны британских замков. **11.55** Тайны римских черепов. **12.55** Загадка катакомб. **13.55, 15.10, 16.25** Дети королевы Виктории. **17.35, 18.30, 19.25, 20.15, 21.10, 22.05** Загадочные убийства: царственные особы. **23.00** Остров Адольф. **0.05, 1.00** Загадочные убийства: нацисты. **2.50, 3.45** Величайшие мистификации в истории. **4.35, 5.25** Мифические существа.

### NATURE

**6.15** Мир природы: леопарды – неестественная история. **7.10** Мир природы: познакомьтесь с обезьянами. **8.05** Мир природы – очковые медведи. **8.55, 9.50, 10.45** Великая рифтовая долина – дикое сердце Африки. **11.40, 12.35, 13.35** Тайная жизнь слонов. **14.30, 15.25** 24 часа на Земле. **16.20** День из жизни Земли. **17.15** Неукротимая Румыния. **18.10, 19.05** Эпический Йеллоустоун. **20.00, 21.00** Дикая Канада. **21.55, 22.50** Город полярных медведей. **23.45, 0.40, 1.30, 2.15, 3.05, 3.50, 4.35** Суровая Австралия. **5.20** Природа в кадре.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 5.10** Только не рассказывайте маме, что я в. **6.15** Научные глупости. **6.40** Национальные парки Америки. **7.25, 8.10** Больше чем фокусы с Ди Эм Си. **9.00** Настоящий суперкар. **9.45** Ледяная дорога. **10.30** Ледяная дорога: Кошмар на дороге. **11.15, 12.00** Невероятные машины. **12.45, 13.35** Путешествия с Гордоном Рамзи. **14.25** Международный аэропорт Дубай. **15.10, 15.55** Расследования авиакатастроф. **16.45** Служба безопасности аэропорта: Первый класс. **18.15** «Наркоман Гитлер». **19.00, 19.45, 20.35, 21.25** Три вождя. **22.10, 2.45** Майкл Пэйлин в Северной Корее. **23.40** Осушить океан: глубокое погружение. **0.25** Осушить океан: корабли-призраки Атлантики. **1.15, 2.00** Авто – SOS. **4.15** Крупнейший в мире ремонт. **5.35** Игры разума.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 22.50** Фотоохота с Евгением Полонским. **6.25, 20.50, 23.20** Рыбалка 360. **6.55, 22.20** Охота в Приволжье. **7.25, 12.15, 17.55, 0.25** Бристольский залив. **8.10, 2.15** На рыбалку вместе с папой. **8.40** Научи меня рыбачить. **9.15, 3.15** Особенности охоты на Руси. **9.45, 3.45** Кулинарное путешествие с Сержем Марковичем. **10.15** Зимняя рыбалка в Удмуртии. **10.45** Пофестивалим! **11.15, 17.25, 1.25, 5.10** Подводная охота. **11.45, 18.50, 1.50, 5.35** Азбука поплавочной ловли с Александром Дунаевым. **13.05** Охотничья и рыболовная кухня. **13.20, 21.50** Камский спиннинг. **13.50, 19.25** На рыбалку с охотой. **14.20** Охота в Беларуси. **14.50, 15.50, 16.55** Беларусь: в поисках хорошего клева. **15.20, 16.25** Рыболовное путешествие с чемпионом. Беларусь. **18.30, 1.10** Дело вкуса. **20.00** Люди дикого севера. **21.20** Охота и рыбалка в. **23.55** Сезон охоты. **2.45** По Якутии с Александром Борисовым. **4.10** Охоты и охотники. **4.30** Охотничьи собаки. **4.55** Какая дичь!

### УСАДЬБА

**6.00, 10.10, 14.10, 18.05, 22.25, 2.10** Дома на деревьях. **6.40, 14.55, 18.55, 23.05, 2.50** Кухня народов СССР. **7.00, 10.55, 19.10, 23.25, 3.10** Да здравствует мыло душистое! **7.15, 11.10, 15.10, 19.30, 23.40, 3.25** Беспокойное хозяйство. **7.45, 15.40, 20.00, 0.15, 3.50** Профпригодность. **8.15, 12.15, 16.10, 20.25, 4.20** Лучки-пучки. **8.30, 12.30, 16.30, 20.45, 0.40, 4.35** Дачные хитрости. **8.50, 12.50, 16.45, 21.05, 0.55, 4.50** Высший сорт. **9.05** Огород круглый год. **9.20, 11.45** Огород круглый год. **9.40, 13.35, 17.35, 21.55, 1.40, 5.35** Секреты стиля. **13.05, 17.05, 21.20, 1.10, 5.05** Дачных дел мастер.



Так мастак Канстанцін Крыжыцкі ў канцы 19 стагоддзя намаляваў хутар.

# Абісінія, Калíткі, Адамарын

## Крыху – пра хутары Маладзечаншчыны і людзей, якія з іх паходзяць

МАЛАДЗЕЧНА

**У гэтым матэрыяле захацелася напісаць пра хутары ў нашай мясцовасці і людзей, якія з іх паходзяць.**

Летам, як заўсёды, у траншэю, што ў сотні метраў ад майго дома, звозілі і ўкладвалі для атрымання сіласу летні ўкос траў. Раней тут недалёка была і ферма. Але ў час перабудовы ў ёй абваліўся дах, і ферму разабралі.

Таму цяпер тут траншэя для сіласу. Калі яе ўсю заклалі, то для герметызацыі накрылі плёнкай. А побач з'явілася шыльдачка з тэкстам. Прачытаўшы яго, я ўсміхнуўся, бо траншэя называлася «Хутар Бронэк». Трэба ж было неяк зрабіць прывязку да месца знаходжання закладкі сіласу. А брыгаднага дзялення ў сельгаспрадпрыемства пакуль няма. Вось так і абазвалі траншэю, што знаходзіцца каля дома майго бацькі Браніслава.

### У нас былі хутары, а не панскія сядзібы

І адразу прыгадаўся канец 1950-х, калі хутароў было шмат. Здавалася, яны запаўнялі ўсю прастору навакольля. Асобныя купкі хат нават мелі свае назвы – Калінаўка, Абісінія, Калíткі, Адамарын. Мне найбольш запомніліся хутары Калінаўка і Абісінія, бо былі размешчаныя бліжэй да нашага хутара. У апошні час я сутыкнуўся з тым, што мясцовыя дачнікі амаль усе былыя хутары называюць панскімі сядзібамі. Аднaзначна на гэты конт выказаўся мой хутарскі сусед **Мікалай Касцюк:**

> «Ды не было тут ніякіх паноў. У асноўным жылі людзі, па нашых мерках, з сярэднім дастаткам. Хаця ўсе працавалі многа і цяжка».

### Навукоўцы, дактары, цесляры

Крыху ніжэй, за пагоркам, дзе жыў Мікалай Касцюк, быў хутар **Мельгуеў**. Цяпер там вельмі грыбное і ягаднае месца. З гэтага хутара паходзіць **Міхаіл Мяльгуй** – доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар.

На хутарах Абісініі жыло некалькі сямей з прозвішчамі **Грышалі**. Мужчыны – амаль усе выдатныя цесляры. У аднаго з іх – **Юзі Грышаля** – дзеці, **Іван** і **Марыля**, сталі добрымі медыкамі. Пачатак дынастыі медыкаў паклаў яшчэ адзін хутаранін з Абісініі – **Пётр Паўкалас**. Ён раней за іншых пачаў займацца вывучэннем свайго роду. Сын Пятра Паўкаласа працаваў галоўным доктарам у бальніцы ў Радашкавічах.

З Абісініі паходзіў адзін з лепшых мясцовых брыгадзіраў **Іван Салавей**. Выдатна сябе зарэкамендавала і яго дачка **Алена**. Яна працавала галоўным аграномам у мясцовым саўгасе. А старэйшая дачка, **Ала**, была бібліятэкарам і збірала краязнаўчы матэрыял.

### З хутара на Маладзечаншчыне – у Дагестан і В'етнам

У пачатку 1960-х з Абісініі перасяліліся пераважна ў вёскі Навасёлкі-1 і Алёхнавічы. А вось ужо з Калінаўкі – у Дубравы. Хаця некаторыя ехалі ў Вазгелы і Алёхнавічы. З Калінаўкі паходзіць дынастыя педагогаў **Кайкоўскіх**. А хутар маёй аднакласніцы **Тамары Грышэль** так і застаўся стаяць на месцы. Цяпер там навокал летнікі.

Яшчэ адзін хутар месціцца, як ехаць па дарозе Алёхнавічы-Дубравы, на ўзгорку, перад уездам у Дубравы. Гэта хутар **Сымона Лёлі**. Пасля тут жыў яго сын **Вячаслаў**. У канцы 1930-х Сымон непадалёк пабудаваў цагельню. Цэглу адсюль вельмі добра набывалі для аднаўлення пасляваенных гарадоў. Потым завод згарэў.

З нашага хутара хачу адзначыць свайго брата **Эдуарда**. Пасля вучобы яго накіравалі ў Дагестан. Там ён узводзіў ГЭС на горных рэках. Чатыры гады адпрацаваў галоўным тэхнолагам у В'етнаме на будаўніцтве ГЭС на Хао Бінь. За працу атрымаў в'етнамскі ордэн і медаль. На пенсіі вярнуўся ў Беларусь.

### Як звязаныя нашы хутары з паўстаннем Каліноўскага

Хутары былі раскіданыя і па другі бок Заходняй Бярэзіны. Гэтыя месцы называліся Калíткамі і Глыбокім Логам. З гэтых хутароў паходзіць **Канстанцін Глухоўскі** – нязменны дырэктар Дубраўскай сярэдняй школы ў 1960-90 гадах. З гэтых хутароў і сям'я **Захарчукоў**, з якой мае бацькі падтрымлівалі добрыя адносіны.

З хутара ў Калітках і мой добры знаёмы **Леанід Жыткевіч** – былы маёр міліцыі па службе, а на пенсіі – пчаляр, садоўнік, цясляр, мастак, аўтар нарысаў, актыўны падарожнік, зачараваны мясцовымі краявідамі.

А самымі вядомымі хутаранамі яшчэ ад 19 стагоддзя былі браты **Дыбоўскія** з хутара Адамарын – удзельнікі паўстання Кастуся Каліноўскага і вучоныя-біёлагі з сусветна вядомымі імёнамі.

### Чаму перасялялі з хутароў

Напэўна, рашэнне аб перасяленні хутаран было такім непазбежным і бясспрэчным, што нават асаблівых тлумачэнняў не патрабавалася. Прычыны былі: вялікае раскіданне хутароў па навакольлі, перашкода для механізаванай апрацоўкі палёў, складанасць у правядзенні электрыфікацыі.

> **І відаць, хутары супярэчылі калгаснаму калектыўнаму ўкладу. Ды і ў саміх хутаранцаў былі праблемы з вадой, з дарогамі, хутары месціліся далёка ад бальніц, школ, магазінаў.**

> **За гэты матэрыял я ўзяўся таму, што мала хто піша пра хутары. Прычым многія з вёсак, куды ў 1960-я гады перасяліліся людзі з хутароў, ужо самі на мяжы знікнення.**

У нашай мясцовасці гэты Касцені і Гейжава, дзе на зіму застаецца жыць па адным чалавеку. Ненамнога лепшая сітуацыя ў вёсцы Еленка. І ў маіх Навасёлках многа пустых дамоў. Гэтыя вёскі маюць шматвекавую гісторыю. Але ўжо некаторыя працэсы прыпыніць нельга.

**Іосіф ПАЎКАЛАС,**
**вёска Навасёлкі-1.**

---

● КАЛЯНДАР

**13 СНЕЖНЯ**

**1907.** Нарадзіўся **Мікалай Лапіцкі** (в. Грэлікі, цяпер у межах в. Засценкі Іжанскага сельсавета Вілейскага раёна), беларускі рэлігійна-грамадскі дзеяч, праваслаўны святар, публіцыст, педагог. Памёр 8.08.1976 у ЗША.

**14 СНЕЖНЯ**

**1939.** Савецкі Саюз выключаны са складу Лігі Нацый за напад на Фінляндыю.

**15 СНЕЖНЯ**

**1859.** У Беластоку нарадзіўся **Людвік Замэнгоф**, стваральнік штучнай мовы эсперанта. Памёр у 1917.

**1985.** У Беларусі нарадзіўся 10-мільённы жыхар.

**16 СНЕЖНЯ**

**1962.** У Ракаве нарадзіўся **Валяр'ян Янушкевіч**, беларускі скульптар. Аўтар помніка Агінскаму ў Маладзечне.



**17 СНЕЖНЯ**

**1942.** Ліквідацыя нацыстамі гета ў Баранавічах.

**18 СНЕЖНЯ**

**1973. Пётр Клімук** стаў першым беларусам, які паляцеў у космас.



**19 СНЕЖНЯ**

**1906.** Нарадзіўся **Леанід Брэжнеў**, кіраўнік СССР у 1964 – 1982 г.г. Памёр 10.11.1982.



Падрыхтаваў **Мікола ГАЙДУК.**


Фота 34travel.me.

Гарадскі вал, на якім размяшчаўся старажытны дзядзінец.


Фота fotokto.ru.

Чарнігаўскі Сімаргл.


Фота ep-z.ru.

Ва Украіне абавязкова трэба пакаштаваць боршч.


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Найстарэйшы храм – Спаса-Праабражэнскі сабор.

# Шэсць прычын, па якіх вы захочаце з'ездзіць у Чарнігаў

**Ад Гомеля да Чарнігава можна заехаць за некалькі гадзін. І апынуцца ў месцы, якое мае так шмат сувязяў з беларускай гісторыяй, і ў той жа час столькі адметнасцяў.**

Экскурсію па Чарнігаве карэспандэнтам «РГ» правяла супрацоўнік Чарнігаўскай медыягрупы гісторык па адукацыі **Аляксандра Федарэнка**.

### Унікальная забудова

У спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА ўваходзяць чатыры аб'екты, размешчаныя ў Беларусі, – Белавежская пушча, замкавы комплекс «Мір», рэзідэнцыя Радзівілаў у Нясвіжы і Дуга Струвэ.

Чарнігаўскі гістарычны цэнтр агулам прэтэндуе на той, каб трапіць у спіс ЮНЕСКА. Каштоўнасцю тут лічаць не толькі асобныя будынкі, а комплекс забудовы гістарычнага цэнтра горада.

Чаму чарнігаўскі цэнтр варты таго, разумееш на скрыжаваннях – храмы размешчаныя там, дзе іх шукае вока. А максімальна зразумелым гэта становіцца з вышыні гарадскога вала, дзе раней размяшчаўся замак – храмы размешчаныя па дыяганалі адзін за адным.

**У савецкі перыяд былі пагрозы не захаваць каштоўную архітэктурную забудову, але дзякуючы мясцовым актывістам удалося яе адстаяць.**

### Горад, які памятае сярэдневечныя «Гульні тронаў»

Чарнігаўскае княства было адным з найбуйнейшых дзяржаўных утварэнняў на Русі 11-13 стагоддзяў. Як расказвае Федарэнка, чарнігаўскія князі саперніўалі з кіеўскімі, і між імі былі пастаянныя канфлікты.

Сюжэты гэтых спрэчак дадуць жару «Гульні тронаў», а беларусам яны асабліва цікавыя – у некаторых гісторыях ёсць сувязь з нашымі землямі і гістарычнымі асобамі.

### Вал з пушкамі

Пляцоўку, дзе быў размешчаны дзядзінец, цяпер можа свабодна наведваць любы ахвотны. І госці, і мясцовыя любяць тут фатаграфавацца – з аднаго боку рака, з іншага гарадскія краявіды. Вал упрыгожваюць пушкі, якія таксама карыстаюцца поспехам у фатографаў.

Гісторыкі расказваюць, што вакол вала роў не напаўнялі вадой, хаця і размешчаны ён ля ракі. У роў убівалі калы, якія змазвалі экскрэментамі. Пасля нават нязначнага ранення чалавек паміраў ад заражэння крыві.

### 1000-гадовыя храмы

Цяпер Чарнігаў – 300-тысячны горад. Але гісторыкі кажуць, што найбольшага росквіту места дасягнула ў дамангольскі перыяд. Пасля нашэсця цудам выжылі шэсць архітэктурных помнікаў – пяць храмаў і комплекс Антоніевых пячораў. У дахрысціянскія часы ў гарах, дзе цяпер пячоры, былі капішчы.

Грошы на пабудову Пятніцкай царквы ахвяравалі мясцовыя жыхары. Храм назвалі ў гонар святой Параскевы, якая апякуе гандлярам – каб гандлярскія справы гараджан ішлі ўгору.

Кожны з храмаў мае сваю гісторыю – як пабудовы, так і шматлікіх аднаўленняў.

### Чарнігаўскі цмок

На многіх сувенірах вы можаце ўбачыць выяву фантастычнага звера, які глытае свой хвост. Яго выява ўпрыгожвае і капітэль Барысаглебскага сабора. Чарнігаўскага звера атаясамліваюць з язычніцкім баством Сімарглам. Гэты цмок выступае ў ролі пасярэдніка паміж небам і зямлёй, валодае чатырма стыхіямі, і ў час двувер'я яго выявай упрыгожвалі хрысціянскія храмы.

**Таму падарункі з чарнігаўскім цмокам стануць лепшым гасцінцам. А падчас прагулкі па горадзе палічыце, колькі выяў сімаргла вы знойдзеце.**

### Цэны і гасціннасць

Акрамя багатых культурных уражанняў Чарнігаў дорыць непаўторныя гастранамічныя. Турыстам лепш звярнуць увагу на месцы, дзе частуюць стравамі ўкраінскай кухні – тут вы непаўторна смачна паясце, атрымаеце асалоду ад інтэр'ера і абслугоўвання.

Цэны што на ежу, што на жыллё ў Чарнігаве ніжэй за маладзечанскія. Так што вандроўка ў Чарнігаў стане добрым выбарам для адпачынку – і калі спыніцца тут, і калі пасля паехаць да Чорнага мора.

Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

# А вы гатовыя заплаціць, каб пабыць на першай паласе газеты?

## Журналісты «Рэгіянальнай газеты» пазнаёміліся з працай калег з Чарнігава

**Практычна поўная адсутнасць дзяржаўных газет і праблем з атрыманнем інфармацыі ад мясцовых уладаў. Глянцавыя часопісы, якія канкуруюць паміж сабой. Рэкламадаўцы і мадэлі, гатовыя заплаціць сотні долараў за тое, каб пабыць на глянцавай вокладцы.**




Выданні Чарнігаўскай медыягрупы.

Днямі журналісты «Рэгіянальнай газеты» наведалі Чарнігаўскую медыягрупу, пазнаёміліся з працай нашых калег. Пра структуру і працу медыягрупы нам распавёў яе дырэктар **Яраслаў Сухамлін**.

### І ніякіх праблем з атрыманнем інфармацыі ад мясцовых уладаў

Сёння ў медыягрупу ўваходзіць радыёстанцыя, некалькі газет, глянцавы рэкламны часопіс, два сайты. А гісторыя кампаніі пачынаецца ад 1997 года – ад адкрыцця першай радыёстанцыі ў Чарнігаве. Праз год з'яўляецца газета бясплатных аб'яў.

Радыё праіснавала нядоўга. І сёння ў медыягрупе сваёй радыёстанцыі ўжо няма. Аднак аддзел радыё ёсць. Тут запісваюць рэкламныя ролікі, якія потым гучаць на іншых радыёстанцыях.

Адна з газет медыягрупы – інфармацыйны штотыднёвік «Сем дзён». Яна выдаецца 18 гадоў. Тут працуюць тры журналісты і галоўны рэдактар.

**Для нас было нязвыкла, што калектыў – цалкам мужчынскі. Свайго сайта газета не мае. Ёсць толькі суполка ў фэйсбуку.**

Сёння тыраж газеты – 4 300, у добрыя часы – быў восем тысяч.

Як і да нас, у рэдакцыю прыходзяць чытачы са сваімі праблемамі. Рэдакцыя часцей пра гэтыя праблемы піша. Толькі вось атрымаць каментар ад прадстаўніка мясцовай улады ўкраінскім калегам куды лягчэй, чым нам.

**– Чыноўнікі, часцей за ўсё, без праблем даюць нам інфармацыю. Па запытах працуем у выключных выпадках, – падзяліўся галоўны рэдактар газеты «Сем дзён» Сяргей Кірычэнка.**

На думку ўкраінскіх калег, сёння журналісту не варта быць такім нейтральным, па-над усім, і ў матэрыялах хаваць уласны пункт гледжання на праблему.

– Мы лічым, што журналіст павінны выказваць сваю думку, тым самым неяк накіроўваць народ. А то наша журналісцкая нейтральнасць часам прыводзіць да таго, што выбіраюць не тых прэзідэнтаў, – падзяліўся Сяргей.

### Газету прыносіць кур'ер

Акрамя «Сямі дзён» у медыягрупе яшчэ дзве газеты – «Аб'явы Чарнігава» і «У кожны дом». Аднак друкаваныя выданні паступова паміраюць усюды. Да таго ж ва Украіне не выпускаюць газетную паперу. Яе трэба набываць за мяжой.

Адзін нумар газеты «Сем дзён» каштуе шэсць грывен – 54 капейкі на беларускія грошы. Гадавая падпіска праз Укрпошту – трыста грывен – каля 27 рублёў. Аднак у медыягрупы ёсць магчымасць падпісаць на сваю газету праз рэдакцыю. Гэта танней – 220 грывен – каля 20 рублёў. Прычым чытачоў заахвочваюць падпісвацца менавіта праз рэдакцыю. За гэта даюць невялічкія гарантаваныя падарункі. А больш буйныя прызы разыгрываюць сярод падпісчыкаў.

**Распаўсюджвае свае выданні медыягрупа самастойна. У Чарнігаве яны маюць свае кіёскі. Тут прадаюць уласныя выданні, а таксама канцылярыю і карткі на праезд.**

Ёсць кур'ерская дастаўка. Тым, хто падпішацца праз рэдакцыю, газету прыносіць кур'ер.

У кавярнях, гатэлях, рэстаранах выданні Чарнігаўскай медыягрупы размяшчаюцца на адмысловых стойках. Для сваіх наведнікаў газеты і часопісы набываюць гэтыя ўстановы.

### Крыху пра чарнігаўскі глянец

Яшчэ адзін друкаваны прадукт чарнігаўскіх калег – глянцавы часопіс BOOM. Яго пазіцыянуюць як гід па нясумным жыцці Чарнігава. Тут рэклама салонаў прыгажосці, кавярняў, рэстаранаў, фотастудый, клінік, турыстычных агенцтваў. Вялікае інтэрв'ю, матэрыял па гісторыі горада, афіша выходзяць бясплатна.

Глянцавая вокладка для рэкламадаўцы каштуе чатырыста долараў. Часцей дзвесце долараў плаціць кампанія, якая рэкламуецца, а дзвесце – мадэль – за тое, каб быць на вокладцы. Па словах работнікаў часопіса, заўсёды ёсць чарга з дзяўчат, якія жадаюць трапіць на вокладку.

– BOOM – паспяховы, рэнтабельны і стабільны праект, – кажа кіраўнік медыягрупы. Нерэнтабельных праектаў у нас няма. Калі бачым, што нешта перастала прыносіць грошы, – закрываем.

Часопіс выходзіць раз на месяц. Раз на год выдаюць дзіцячы BOOM і вясельны BOOM.

Два разы на год паспрабавалі выдаваць глянцавы часопіс пра ежу і напоі – «Смачне життя». Ва Украіне, як і ў нас, забаронена рэклама алкаголю і цыгарэт. Але ў спецыялізаваных выданнях гэтыя групы тавараў можна рэкламаваць. Таму і стварылі такі часопіс. Аднак пакуль, прызнаўся **Яраслаў Сухамлін**, выданне прыносіць больш выдаткаў, чым прыбытку. Таму яго выпуск прыпынілі.

Штогадовы рэкламны праект медыягрупы – карта Чарнігава. З адваротнага боку на ёй размяшчаюць макеты ад рэкламадаўцаў.

### Ад рускай мовы – да ўкраінскай

Па словах украінскіх калег, дзяржаўных газет ва Украіне на сёння практычна няма. Так, пасля раздзяржаўлівання многія выданні зніклі. Але гэта нядрэнная тэндэнцыя.

– Адразу стала бачна, якія газеты не трэба чытачам. Як толькі дзяржава перастала іх падтрымліваць, як толькі знікла прымусовая падпіска, зніклі і газеты. Такім чынам, медыярынак Украіны ачысціўся ад смецця, – лічыць Яраслаў.

**Гарадскія мерапрыемствы – яшчэ адзін від дзейнасці медыягрупы. Ужо некалькі год запар летам журналісты ладзяць фестываль «Зелена сцэна».**

У скверы ў цэнтры Чарнігава выступаюць музыкі – як мясцовыя, так і з іншых гарадоў. На бліжэйшым фестывалі плануюць запрасіць музыкантаў з Беларусі.

А яшчэ цягам апошніх год большая частка газет ва Украіне перайшлі з рускай мовы на ўкраінскую. А згодна з Законам аб мовах, да 2022 года ўсе выданні павінны стаць украінамоўнымі. Калі Зяленскі не скасуе гэты закон, удакладняе дырэктар медыягрупы.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## Кожны Дзед Мароз прэзентуе сваю рэзідэнцыю

ВІЛЕЙКА

Шэсце Дзядоў Марозаў і Снягурак у Вілейцы зладзяць 28 снежня ў 15:00, распавялі ў Палацы культуры.

Усе святочныя персанажы збяруцца каля палаца і пройдуць вакол цэнтральнай плошчы. Да пачатку свята кожны Дзед Мароз павінны будзе змантаваць на плошчы сваю рэзідэнцыю. Тут будуць праводзіць прэзентацыю і гульні.

**Конкурс рэзідэнцый стане галоўнай падзеяй мерапрыемства.**

Будзе працаваць галоўная рэзідэнцыя ад Палаца культуры.

У 15:00 адкрыюць свята. Пачнецца канцэрт і праца рэзідэнцый. У 17:00 узнагародзяць пераможцаў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Ялінкі паставяць на цэнтральнай плошчы і ў некалькіх мікрараёнах

ВІЛЕЙКА

Згодна з рашэннем Вілейскага райвыканкама, галоўную ялінку ў горадзе паставілі на цэнтральнай плошчы.

Традыцыйна яшчэ некалькі святочных дрэў з'явяцца ў мікрараёнах горада: у Макаўі, на Зеніце, у Чыркаве, Воўкаўшчыне, на Касманаўтаў, паведамляюць у райвыканкаме.

Нагадаем, што кірмашы, дзе можна будзе набыць навагоднiя дрэва, запрацуюць прыкладна ад 20 снежня.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Улады думаюць зрабіць 2 студзеня выхадным без адпрацоўкі

У дыскусіі пра выхадныя на Новы год яшчэ не пастаўленая кропка. Ужо вядома, што прапанову зрабіць 31 снежня выхадным ва ўрадзе не падтрымалі. Аднак, як стала вядома, разглядаецца варыянт зрабіць 2 студзеня выхадным без адпрацоўкі.

Навагоднія святы ў гэтым годзе не пясцяць беларусаў вялікай колькасцю дадатковых выхадных дзён. Адпачываць мы будзем 25 снежня, 1 студзеня, 2 студзеня (з адпрацоўкай у суботу 4 студзеня), 6 студзеня (з адпрацоўкай у суботу 11 студзеня) і 7 студзеня.

Раней у інтэрнэце з'явілася петыцыя зрабіць выхадным 31 снежня (яе падпісалі больш за 15,7 тысячы чалавек). Бо апошнія гады беларусы адпачывалі ў гэты дзень. Але ў 2016-м і 2017-м ён прыпаў на суботу і нядзелю адпаведна. Перад сустрэчай 2019 года беларусы адпачывалі ў панядзелак, 31 снежня, паколькі загадзя адпрацавалі яго ў суботу, 29 снежня.

**Сёння ініцыятыва падоўжыць святочную традыцыю не знайшла падтрымкі ва ўладаў.**

– У рашэнні ўрада ёсць рацыянальнае зерне. Калі рабіць выхадным 31 снежня, то застанецца адзін працоўны дзень – 30 снежня. Людзі будуць святкаваць на працы. А гэта фактычна раўназначна таму, што краіна сыходзіць на выхадныя 27 снежня, – растлумачыў TUT.BY суразмоўца, знаёмы з абмеркаваннем дадзенага пытання. – Але канец года заўсёды напружаная пара. Шмат хвастоў. Трэба спакойна закрыць год. Потым шпацыраваць. А падрыхтавацца да свята можна 28-29 снежня.

**Разам з тым абмяркоўваецца прапанова зрабіць 2 студзеня выхадным без адпрацоўкі ў суботу, 4 студзеня.**

«З'явілася інфармацыя, што 4 студзеня не трэба працаваць. 2 студзеня будзе паўнавартасным выхадным. Яго не трэба будзе адпрацоўваць», – сказала TUT.BY інфармаваная крыніца.

Паводле яе слоў, «улады пачулі запыт з боку грамадства і палічылі варыянт з 2 студзеня самым аптымальным».

На днях прэм'ер-міністр **Сяргей Румас** паведаміў, што ўрад унёс у Адміністрацыю Прэзідэнта праект указа з нагоды выхаднога 2 студзеня.

**Паводле TUT.BY**



Так выглядала цэнтральная плошча ў Вілейцы летась перад Новым годам.

Фота Вілейскага райвыканкама

# Ацэняць ялінкі, Дзеда Мароза і новыя дызайнерскія рашэнні

## А яшчэ правядуць конкурс на лепшае навагоднее ўпрыгожванне будынка

ВІЛЕЙКА

**Пра гэта карэспандэнту расказаў начальнік аддзела культуры, ідэалагічнай работы і па справах моладзі Вілейскага райвыканкама Сяргей Паўлоўскі.**

Конкурс разлічаны на адміністрацыйныя, грамадскія і вытворчыя будынкі. Ужо зацверджанае адпаведнае палажэнне і склад камісіі.

Сёлета ўпрыгожаныя будынкі будуць ацэньваць у пяці намінацыях:

- лепшае святочнае афармленне аб'екта гандлю і грамадскага харчавання, бытавога абслугоўвання
- лепшае святочнае афармленне прамысловага, будаўнічага, дарожна-будаўнічага і камунальнага прадпрыемства
- лепшае святочнае афармленне аб'екта сацыяльнай сферы ў горадзе. Тут будуць спаборнічаць медыцынскія ўстановы, школы, садкі,
- лепшае святочнае афармленне аб'екта сацыяльнай сферы на вёсцы
- лепшае святочнае афармленне сельскага населенага пункта

Конкурс праводзяць не ў першы раз. Аднак сёлета зрабілі больш намінацый, кажа Сяргей Паўлоўскі. Так атрымаецца ацаніць будынкі больш справядліва, лічаць арганізатары.

Журы будзе звяртаць увагу на афармленне фасадаў і ўваходаў, афармленне тэрыторыі і дрэў, наяўнасць аб'ёмных скульптур, фігуры Дзеда Мароза і Снягуркі, штучных і натуральных ялінак, цэласнасць, новыя дызайнерскія рашэнні, якасць, эстэтыку.

Да 15 снежня ў райвыканкаме будуць збіраць заяўкі. Ад 25 снежня да 14 студзеня вызначаць пераможцаў. Яны атрымаюць дыпломы і падарункі.

Нагадаем, што летась месцы размеркавалі наступным чынам. На першым былі прадпрыемствы «Буддэталі» і «Зеніт», на другім – Вілейскі доследны лясгас, на трэцім – Вілейскі філіял Маладзечанскага малочнага камбіната.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Як вырошчваюць навагоднія дрэвы і дзе іх набыць

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

**Прыкладна ад 20 снежня на традыцыйных кірмашах на Маладзечаншчыне і Вілейшчыне можна будзе набыць навагоднее дрэва, расказалі карэспандэнту ў Маладзечанскім і Вілейскім доследным лясгасах.**

– Навагоднія дрэвы будзем прадаваць у ранейшых месцах: ва ўсіх лясніцтвах раёна, на Старым Месце, ля «Электрамодуля», ГЦ «Спадарожнік», на Цэнтральнай плошчы, на Драздовіча, бойкі гандаль ідзе па Віленскай, 125, у Маладзечанскім лясніцтве, – расказаў намеснік дырэктара лясгаса **Віталь Дземеш**.

**Ялінкі, у залежнасці ад вышыні, будуць каштаваць ад 10 да 60 рублёў. За шэсць рублёў можна будзе набыць навагоднюю дрэва, ад 15 да 20 рублёў – дрэва ў кадцы.**

– Сёлета мы вызначалі градацыю па вышыні да двух метраў. Дрэвы і метр, і паўтара, і два будуць каштаваць аднолькава, – тлумачыць намеснік дырэктара.

Па словах спецыяліста, навагоднія дрэвы вырошчваюць на спецыяльных плантацыях.

**Каб ялінка вырасла вышынёй адзін метр, трэба пяць гадоў, каб два – сем.**

Па словах намесніка дырэктара Вілейскага доследнага лясгаса **Таццяны Анішчык**, месцы для ёлачных кірмашоў у Вілейцы застануцца ранейшымі. Па ялінку можна будзе прыходзіць:

- да магазіна №26
- на цэнтральную плошчу
- да «Еўраопта» ў раён Незалежнасці
- да «Дабранома» ў раён Шанхай

Дрэвы да свята работнікі лясгаса будуць нарыхтоўваць у лесе ў вызначаных месцах. Цэны плануюць пакінуць на ўзроўні мінулагодніх.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Падманулі не дзяцей, а бацькоў

## У Мінску прэзентавалі кнігу пра дзяцей Францыі

**Напрыканцы лістапада ў Мінску пісьменнік і журналіст Валер Каліноўскі прэзентаваў кнігу «Дзеці Францыі». У ёй сабраныя 14 гісторый беларускіх сем'яў. Мы пагутарылі з нашым даўнім знаёмым, адным з герояў гэтай кнігі Аляксандрам Салагубам з Маладзечна.**



Фота забяспечанае Аляксандрам САЛАГУБАМ.

Аляксандр Салагуб падчас адной з вандровак па Еўропе.

### Бацька і маці жылі ў Францыі з 1930-х

Бацька Аляксандр і маці Вера нарадзіліся і жылі ў вёсцы Кавалі на Вілейшчыне. Яны ведалі адзін аднаго з дзяцінства. Бацька распавядаў, як сустрэў Першую сусветную вайну. Ад 1921 года вёска была ў складзе Польшчы.

**– Бацька працаваў, але было цяжка, таму што сям'я вялікая. У той час сталі зваць на працу за мяжу. Праца была розная, бацька паехаў на шахту ў французскі горад Алес.**

Аляксандр адпрацаваў год, накупіў падарункаў, паехаў дадому наведаць сваякоў і абавязкова ажаніцца. Потым Вера прыехала да Аляксандра ў Алес. Яны жылі ў інтэрнаце – на працы давалі месца для рабочых, якія былі пераважна з Польшчы.

Калі Вера была цяжарная Аляксандрам, сям'і далі аднапакаёвую кватэру. А пасля, калі нарадзілася сястра Зіна, яны сталі жыць у двухпакаёвым памяшканні.

**У сям'і размаўлялі на французскай мове, часам праскоквалі беларускія словы.**

### Ваенныя гады

У 1940 годзе ў Алес прыйшла вайна. Аляксандр дагэтуль памятае, як ён разам з сям'ёй хаваўся ў бамбасховішчы, яму накрывалі галаву падушкай. Алес бамбілі амерыканцы – мост, вакзал.

**– Бачыў на вакзале разбітыя вагоны ў 1944-м летам, трупы. Гэта былі лічаныя хвіліны, таму што трэба было хутка вяртацца дадому. Распавядаў пра гэта бацькам, а яны сварыліся на мяне, чаго я туды хадзіў.**

Падчас вайны было цяжка з ежай. Людзі спрабавалі яе скрасці ў нямецкіх вайскоўцаў. У Аляксандра шмат гісторый пра галоднае ваеннае дзяцінства. Немцы прывозілі некалькі вагонаў ежы для гарнізона ў Алесе. Людзі прыходзілі да вагонаў, спрабавалі перахапіць кавалкі чаго-небудзь, калі ежу згружалі з вагонаў у грузавікі.

– Залазілі на вагоны, хапалі бульбу. Аднойчы мама ўпала і моцна разбіла калена. А мяне за гэтай справай заўважыў нямецкі салдат, гнаўся з рэменем.

Людзі стаялі каля вагонаў і грузавікоў з ежай, прасілі даць паесці, але ім адмаўлялі. Машына ехала павольна, на ёй сядзелі два салдаты з аўтаматамі, але не стралялі. Яны білі па руках бляхамі. Падабраць некалькі бульбін удавалася.

**Падчас вайны Аляксандр разам з маці хадзілі на сметнік гарнізона, куды вывозілі рэшткі ежы з кухні.**

– Усе радаваліся, калі закончылася вайна. Усе казалі, што амерыканцы скінуць на Японію атамную бомбу, і яе будзе чутна ва ўсім свеце. Я шмат разоў прыкладваў вуха да асфальту, але так і не пачуў.

Тады казалі, што больш войнаў не будзе. Маўляў, з немцамі паваявалі і хопіць. А праз некаторы час пачаўся араба-ізраільскі канфлікт. Калі сям'я Салагубаў прыехала ў Савецкі Саюз, то ён заўсёды чуў пра ўсё новыя войны.

**– Людзі ваююць да сённяшняга дня. Адслужыў, падрос і цяпер ведаю, што ваююць увесь час. Гэта ў прыродзе чалавека. На жаль, усё жывое ваюе паміж сабой. Мне гэта не падабаецца.**

Бацька быў адным з актывістаў Саюза савецкіх патрыётаў. У Францыі дзейнічалі агітатары, звалі ў СССР. Савецкія дыпламаты часта прыязджалі да сем'яў, якія з'ехалі яшчэ падчас Польшчы працаваць у Францыю. У 1947 годзе Салагубы паехалі ў Савецкі Саюз. Яны прыехалі ў іншую краіну з іншым палітычным ладам. Бедавалі, працавалі на шахце, але не змаглі паведаміць людзям, якія засталіся ў Францыі, што ў СССР яшчэ нашмат-нашмат горш.

– Былі падманутыя не дзеці, а бацькі, таму што яны ж нас прывезлі. А мне хацелася б толькі катацца, я ж дзіця. Тата і мама распавялі толькі потым, што гэта значыць прыехаць у Савецкі Саюз.

**– Ці адрозніваюцца гісторыя вашай сям'і ад гісторый іншых?**

– Лічу, што 99% амаль аднолькавыя. Усе пад адну марку, мы ўсе хапанулі гора.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

Прэзентацыя кнігі Валера Каліноўскага «Дзеці Францыі» адбылася 22 лістапада. На сустрэчы былі пасол Францыі Дыдзье Канэс, паслы Украіны і Польшчы. Аляксандр паехаў на прэзентацыю разам з братам Мікалаем. Аляксандру было 12 гадоў, калі яго прывезлі ў Савецкі Саюз. Яго брату споўніўся адзін год, калі з сям'ёй у 1947 годзе знаходзіліся ў савецкай зоне акупацыі і фільтрацыі ў СССР.

## Ашмянскі цяжкаатлет заваяваў сярэбраны медаль на рэспубліканскіх спаборніцтвах

У Бабруйску прайшла рэспубліканская спартакіяда ДЮСШ і СДЮШАР па цяжкай атлетыцы сярод юнакоў і дзяўчат 2005 года нараджэння і маладзейшых.

Ашмянскую ДЮСШ імя Андрэя Барбашынскага прадставіў на гэтых спаборніцтвах неаднаразовы пераможца і прызёр першынства Гродзенскай вобласці, вучань Жупранскай СШ **Даніэль Жабінскі**.

Вагавая катэгорыя да 45 кг, у якой выступаў цяжкаатлет, была прадстаўленая 18 удзельнікамі з усіх рэгіёнаў краіны, кожны з якіх разлічваў на перамогу.

Ва ўпартай барацьбе ашмянскаму спартсмену атрымалася адваяваць месца на п'едэстале. Жабінскі ўзяў сярэбраны медаль рэспубліканскіх спаборніцтваў.

**Паводле osh.by.**

## Астравецкія баскетбалісты ўзялі абласны кубак

Першынство абласнога баскетбольнага турніру «Кубак энергетыкаў» на прызы абласной арганізацыі Беларускага прафсаюза работнікаў энергетыкі, газавай і паліўнай прамысловасці аспрэчвалі 12 камандаў, якія былі разбітыя на тры групы.

Каманда Беларускай АЭС, пазалеташні чэмпіён турніру, летась спынілася ў двух кроках ад пастамента.

> Сёлета астравецкія баскетбалісты былі настроеныя толькі на перамогу і прадэманстравалі гэта на гульнявой пляцоўцы.

Спачатку атамшчыкі перамаглі каманду Ваўкавыскіх электрычных сетак **35:8** і адолелі працаўнікоў з апарата кіравання РУП «Гроднаэнерга» **29:18**.

У паўфінале астраўчане перамаглі каманду Лідскіх цеплавых сетак, выйграўшы з лікам **33:24**.

У фінале гульцы Беларускай АЭС змаглі вырваць перамогу ў Гродна – **31:27** – і сталі чэмпіёнамі.

Лепшым гульцом турніру быў прызнаны **Уладзімір Яновіч**, дапамагалі яму **Аляксей Чаркас, Антон Касцюкоў, Алег Гейб, Яўген Міцкевіч, Андрэй Мядзведзеў, Сцяпан Машлякевіч, Аляксандр Даўгапалец** і **Уладзімір Ташчан.**

**Паводле ostrovets.by.**

## WADA пазбавіла Расію права выступаць на алімпіядах і чэмпіянатах свету

Выканкам Сусветнага антыдопінгавага агенцтва (WADA) аднагалосна прыняў рэкамендацыю камітэта арганізацыі пазбавіць Расійскае антыдопінгавае агенцтва (РУСАДА) статусу адпаведнасці Сусветнага антыдопінгавага кодэкса.

> – Рэкамендацыя камітэта па адпаведнасці была адобраная аднагалосна, – сказана ў паведамленні.

Такім чынам, Расія на чатыры гады пазбаўляецца права прымаць чэмпіянаты свету і падаваць заяўкі на іх правядзенне, спартсмены краіны не змогуць выступаць на алімпіядах і сусветным першынстве пад нацыянальным сцягам. Выканкам WADA ўвёў чатырохгадовую забарону на наведванне міжнародных спартыўных мерапрыемстваў расійскімі дзяржслужбоўцамі і кіраўніцтвам Алімпійскага камітэта Расіі і Паралімпійскага камітэта Расіі.

**Паводле tass.ru.**

## У Смаргоні прайшоў трэці тур ДЮБЛ сярод жаночых камандаў U-14

Ад 6 да 7 снежня ў Смаргоні прайшоў трэці тур дзіцяча-юнацкай баскетбольнай лігі (ДЮБЛ) сярод жаночых камандаў, гульцам у якіх не больш за 14 гадоў. За ачкі на гэтым этапе спаборніцтваў змагаліся баскетбалісткі са Смаргоні, Мінска, Гродна, Скідаля і Салігорска.

Каманда Смаргонскай СДЮШАР пад кіраўніцтвам **Валерыя Юрчанкі** ў чатырох матчах дамаглася трох перамог над БК «Гарызонт» (**58:34**), БК «Прынёманне-2» (**59:31**) і салігорскай ДЮСШ (**54:22**). Смаргонкі саступілі ў трэцім матчы гродзенскай камандзе «Прынёманне-1» з лікам **43:55**.

**Паводле shliah.by.**




Фота vk.com/cluboshmiany.

Ашмянскія футбалісты перад гульнёй.

# Мы – аматары. Як на Ашмяншчыне гуляюць у міні-футбол

**Віктар Бярнат у мінулым – гулец ашмянскай каманды, а цяпер яе трэніруе. Ён падзяліўся з «Рэгіянальнай газетай» планамі на сезон і пракаментаваў вынікі «Ашмянаў» за тры туры.**




### Ашмянцы займаюць другі радок у групе

У мінулым сезоне ашмянцы не выйшлі з групы. Цяпер чэмпіянат Гродзенскай вобласці падзялілі на зоны – Паўночную і Паўднёвую. У Паўночнай гуляе шэсць камандаў, а ў Паўднёвай – пяць. З кожнай групы выходзіць у наступную стадыю чатыры каманды. Гэтыя калектывы будуць гуляць стыкавыя матчы. Каманды, якія не выйшлі ў стыкавы этап, сустрэнуцца паміж сабой у суцяшальных гульнях.

> У групе з ашмянцамі гуляюць Смаргонь, Астравец, Воранава, Навагрудак і Ліда. Групавы этап гуляюць у два кругі – адна дамашняя і выязная сустрэчы.

Ашмянцы правялі тры гульні: адна нічыя і дзве перамогі. Такім чынам, каманда займае другі радок, саступаючы толькі Лідзе. Менавіта лідскі міні-футбольны калектыў Віктар Бярнат лічыць галоўным канкурэнтам у барацьбе за першае месца ў групе.

> – Мы пачалі някепска. Усе гульцы з Ашмянаў, але ёсць і адзін смаргонец. Амаль усе маладыя хлопцы.

### «Займаемся ўсім самі»

Бярнат кажа, што ў камандзе стараюцца гуляць маладым складам, але футбалісты з досведам таксама ёсць. Поўная заяўка ў каманды складае 25 чалавек. На гульню па палажэнні заяўляюць 14 гульцоў.

> Трэнер лічыць, што яго гульцам атрымліваецца перамагаць з дапамогай валявых якасцяў.

На гульні ашмянскіх міні-футбалістаў збіраецца дастаткова заўзятараў. Бярнат кажа, што рэкламай, вырабам афіш, формай займаюцца ў камандзе самі. Ашмянскі фізкультурна-спартыўны клуб дапамагае з арэнай і медыцынскім абслугоўваннем гульняў.

> – А так у нас аматарская каманда, таму мы займаемся ўсім самі: ад мячоў да групы ў сацыяльных сетках.

### На Ашмяншчыне пачынаюць развіваць футбол

У Ашмянах няма футбольнай ДЮСШ, толькі гандбольнае аддзяленне. У апошнія гады на Ашмяншчыне рэалізуюць праекты па развіцці футбола: адкрылі прыватную школу, а «Дынама-Брэст» стварыў дзіцячую акадэмію.

> Ад Ашмянаў у другой лізе выступае «Ашмяны-БДУФК», які вырваў у гэтым сезоне пуцёўку ў першую лігу.

Паводле Віктара Бярната, дзіцячыя праекты даюць развіццё футбола на будучае і гадуюць сваіх гульцоў у рэгіёне.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Надта, вельмі, надзвычай.
3. Сумеснае абмеркаванне пытанняў.
4. Дзве сумежныя старонкі разгорнутай кнігі, часопіса, сшытка.
7. Дачаснае спыненне цяжарнасці; самаадвольнае або наўмыснае ачышчэнне маткі ад плода.
10. Чалавек аднаго ўзросту.
12. Найвышэйшая ступень захаплення, пры якой чалавек даходзіць да самазабыцця; непрытомна-раз’юшаны стан.
13. Адна з татэмных жывёлін, вобраз якой абавязкова ўдзельнічаў сярод валачобнікаў.
14. Гной з дамешкай саломы, які высушваецца ў выглядзе цаглін і скарыстоўваецца як паліва.
15. Установа, дзе па рэцэптах дактароў робяцца і адпускаюцца лякарствы, прадаюцца санітарна-гігіенічныя, касметычныя і іншыя сродкі.
21. Вышэйшая ступень пазнавальнай дзейнасці чалавека, здольнасць лагічна мысліць, асэнсоўваць навакольную рэчаіснасць.
24. Булачны выраб з заварнога цеста, закручанага кольцам.
25. Ліпкае рэчыва, якое скарыстоўваюць для трывалага змацавання.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Дакумент аб заканчэнні вышэйшай або сярэдняй спецыяльнай навучальнай установы, а таксама аб прысуджэнні вучонай ступені ці прысваенні ганаровага звання.
2. Трапічнае дрэва, абястлушчаныя зярняты якога ідуць на прыгатаванне шакаладу.
5. Рабочы пакой.
6. Частка архітэктурнага збудавання ў выглядзе высокага слупа, якая з’яўляецца апорай франтонаў, унутраных частак будынка.
8. Неглыбокая ранка на целе або пашкоджанне на прадмеце ў выглядзе палоскі, зробленае нечым тонкім і вострым.
9. Джардана Бруна сустракаўся з гэтым англійскім пісьменнікам і спрабаваў яго пераканаць у праўдзівасці геліяцэнтрычнай сістэмы. Але не змог.
11. Кіраўнік універсітэта і некаторых іншых вышэйшых навучальных устаноў.
16. Нерастваральнае ў вадзе масляністае рэчыва, якое ўтрымліваецца ў жывёльных і раслінных тканках.
17. Ледзяны Дзед, персанаж славянскага фальклору, што ўвасабляе зімовы холад.
18. Зямля ФРГ са сталіцай у Дрэздэне.
19. Высадка войск на тэрыторыю праціўніка.
20. У якім яшчэ горадзе, акрамя Полацка і Ноўгарада, стаіць Сафійскі сабор.
22. Адасобленасць у выніку страты родных ці блізкіх або ў выніку жадання пабыць асобна ад іншых.
23. Палітычная паліцыя ў Польшчы 1918-1939 гадоў, якая вяла барацьбу з рэвалюцыйным рухам.
24. Склад зброі і ваеннай амуніцыі.

## Адказы на крыжаванку з №49

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Граблі. 5. Гарох. 7. Экалогія. 8. Лунка. 11. Лінза. 13. Грукат. 14. Певень. 17. Шкала. 18. Лазня. 20. Шакалад. 21. Тытанік. 23. Пацыфізм. 25. Лікёр. 26. Грыб.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Пячатка. 3. Трыбунал. 4. Прымхі. 6. Левіяфан. 9. Голас. 10. Апанент. 12. Віцень. 15. Ружа. 16. Гутарка. 17. Штаб. 19. Радыё. 22. Эгаіст. 23. Пераказ. 24. Лексіка.






● ГАРАСКОП

## Даведайцеся, чым вы раздражняеце іншых


**АВЕН.** Вашы моцныя бакі – смеласць і валоданне сабой. Але калі не змякчаць гэтыя якасці, іншыя могуць адчуваць ад вас агрэсію. Пастарайцеся трымаць дыстанцыю. Як бы блізкія вы не былі з людзьмі, часам усім трэба прастора.


**ЦЯЛЕЦ.** Вы вельмі мэтанакіраваныя людзі, але вам трэба дасягнуць свайго тут і зараз. Бывае, што ў гэтых планах фігуруюць іншыя людзі. І іх планы для вас нічога не значаць, таму што трэба атрымаць сваё тэрмінова.


**БЛІЗНЯТЫ.** Нямногія могуць зразумець, як можна амаль усё жыццё ведаць чалавека і разам з тым зусім не ведаць яго самога. Такая загадкавасць можа злаваць, асабліва блізкіх людзей. Варта быць больш адкрытымі хаця б з самымі блізкімі.


**РАК.** Прадстаўнікі гэтага знака больш за ўсё раздражняюць дарам прадказання. Яны ўпэўненыя, што ад нараджэння валодаюць звышнатуральнымі сіламі. А самае страшнае, калі іх прадказанні спраўджваюцца, вось тут любы можа запанікаваць.


**ЛЕЎ.** Львы лічаць сябе валадарамі свету. З гэтым усе гатовы мірыцца. Але пасля цар звяроў пачынае навязліва тлумачыць, як яму ўсе зайздросцяць. І вось гэта ўжо цяжка дараваць.


**ДЗЕВА.** Прадстаўнікам вашага знака складана стрымаць сябе ад доўгай гутаркі. Усе мы часам любім плёткі, але і ў гэтым варта трымацца меры.


**ШАЛІ.** Нерашучасць і нявызначанасць з рашэннямі можа моцна раздражняць. Складана будаваць планы з чалавекам, які можа некалькі разоў перадумаць. Пастарайцеся паберагчы нервы блізкіх і трымацца сваіх слоў.


**СКАРПІЁН.** Пры ўсёй вашай адвазе вы можаце проста забіваць іншых перыядамі, калі трэба паныць. Плюс да гэтага дадаецца нерашучасць і куча іншых непрыемных рэчаў. Няхай гэтыя якасці застаюцца толькі для самых блізкіх, іншым зусім неабавязкова бачыць вас не ў форме.


**СТРАЛЕЦ.** Калі вы нешта задумалі, вас не стрымаць. Пад гэты бронецягнік трапіць усё – чужыя планы, мары, думкі. Таму варта часцей улічваць меркаванні іншых.


**КАЗЯРОГ.** Вы імкняцеся адарыць усіх дабром. І нішто не спыняе на гэтым шляху. Вось толькі можа моцна адрозніваецца разуменне дабра ў вас і ў таго чалавека, для якога яго робіце. Так што пытайцеся, ці сапраўды трэба тое, што вы задумалі.


**ВАДАЛЕЙ.** Блізкія нават не разумеюць, чым вы раздражняеце іх. Але так раззлаваць іх можаце толькі вы. Свой настрой распаўсюджваеце на ўсіх. Калі кепска вам, то кепска ўсім. А эмоцый у вас столькі, што хапае на ўсіх.


**РЫБЫ.** Вы часта крыўдуеце на блізкіх, але і самі не можаце патлумачыць, што не так. Такая ранімасць збівае з панталыку. І часцей за ўсё, іншы бок зусім не хацеў зрабіць вам нешта кепскае. Таму складваецца ўражанне, што вы проста хочаце крыўдзіцца.

**Эмілія ХВОЯ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 6 | | | | 7 | 5 | 4 | |
| | 5 | 4 | 2 | | 6 | | | |
| 2 | | | | | 5 | | | 6 |
| | 3 | 9 | 5 | | | | 2 | |
| 1 | 4 | | | | | | 3 | |
| | 8 | 7 | | | | | 9 | 4 |
| | 1 | | 9 | | | | | 8 |
| | | 8 | | | 3 | | | 1 |
| | 7 | 6 | | | | | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

# Рэгіянальная газета. Rh.by



● ПТУШКА НА ХВАСЦЕ ПРЫНЕСЛА

Начная электрычка Мінск-Маладзечна.

Як звычайна, большасць пасажыраў – запрацаваныя рабочыя мужчыны.

Насупраць мяне мірна спіць адзін з іх.

Раптам у Ратамцы збоку сядае дзяўчына і пачынае прыгажэнна размаўляць па-беларуску па тэлефоне. Прам неверагодна правільнай моваю, з усімі дзэканнямі, фрыкатыўнымі «г», гэтымі ўсімі «на свае вочы», «нішто сабе» і «ў краму па хлеб».

Мужчынка прачынаецца, доўга і пільна ўглядаецца ў дзяўчыну. І відаць, што ўразіўся, аж не засынаецца яму зноў.

Дзяўчына замаўкае і хутка выходзіць. Праз пару хвілін тэлефон звініць у мяне, і гэтым разам мужчынак з яшчэ больш круглымі вачыма сочыць за мной.

Пасля прыходзіць кандуктарка, правярае мой беларускамоўны білет і кажа «дзякуй!».

Мужычок прам рэальна ў ступары. Глядзіць па баках, за акно. А пасля выдае:

– Я што, так доўга спаў, што аж Беларусь беларускамоўнай стала?..



## Стартуе акцыя «Дзед Мароз пад прыкрыццем»

МАЛАДЗЕЧНА

Ладзіць дабрачынную акцыю сацыяльнае грамадскае аб'яднанне бацькоў Маладзечаншчыны «Бумеранг дабра».

Акцыя накіраваная на дапамогу дзецям-сіротам і дзецям з інваліднасцю. На першым паверсе ГЦ «Спадарожнік-2» усталююць ялінку. Яе ўпрыгожаць паштоўкамі з дзіцячымі жаданнямі.

Кожны зможа выбраць паштоўку, запоўніць анкету і набыць падарунак. Затым на месцы паштоўкі з лістом Дзеду Марозу размесцяць ёлачнае ўпрыгожванне з сапраўдным імем выканаўцы дзіцячага жадання, ад якога набыты падарунак. Акцыя будзе доўжыцца да 6 студзеня.

**Аддзел інфармацыі.**



## Чытайце праз тыдзень:

- Ужо зусім трохі засталося да года Пацука. Па традыцыі пагартаем старыя падшыўкі, кнігі, архіўныя матэрыялы і даведаемся, чым ранейшыя гады Пацука ўваходзілі ў гісторыю рэгіёна.

## 14 снежня, субота

**Вецер:** паўднёва-ўсходні, 6 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. НАРАЧ**

Мінімальная тэмпература -20,6°C у 2001 годзе
Максімальная тэмпература +8,5°C у 2000 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 27,9 мм у 2003 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Чалавек без газеты – як дрэва без лісця. Падпішыся на «РГ!»

**Ідзе падпіска на першае паўгоддзе 2020 года!**

**Падпісацца на «РГ» можна:**

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 90 капеек;
- на квартал – 14 рублёў 70 капеек;
- на паўгоддзе – 29 рублёў 40 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 15 рублёў;
- на квартал – 45 рублёў;
- на паўгоддзе – 90 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Якой павінна быць жаночая бялізна?



**Анастасія Пановіч, выхавальнік у дзіцячым садку, Маладзечна:**
– Жаночая бялізна павінна быць, па-першае, зручнай, ну і абавязкова прыгожая.



**Дзяніс Астрэлін, электрык-манцёр, Вілейка:**
– Калі я правільна зразумеў пытанне, то, напэўна, наўрад ці змагу даць на яго адказ, таму што насіць гэту бялізну не нам.



**Ірына Новік, харэограф, Вілейка:**
– Магу сказаць адно, што яна павінна быць зручнай, каб не скоўваць рухаў. І, вядома ж, падабацца.



**Анастасія Крот, медыцынская сястра, Маладзечна:**
– Лічу, што бялізна павінна быць з натуральнай тканіны.



**Анастасія Чачуліна, адміністратар, Вілейка:**
– Я лічу, што жаночая бялізна павінна быць, найперш, зручнай і з натуральных матэрыялаў. Скура павінна дыхаць і не быць перацягнутай ад бялізны. Увогуле, жаночая бялізна павінна прыносіць камфорт і радасць яго ўладальніцы.



**Віталь Мігановіч, інкасатар, Смаргонь:**
– На мой погляд, перш за ўсё, зручнай, ну і сэксуальнай.



**Міхаіл Кулеш, фатограф, Вілейка:**
– Трэба ў жанчын пытацца. Усё залежыць ад густу чалавека. Не любая бялізна будзе пасаваць канкрэтнай жанчыне.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№50 (1285) 13.12.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РолПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 2034. Падпісана ў друк у 9.00 12.12.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.